ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 28 (2378) 14 ліпеня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 200 рублёў.

## ПАСЛЯ ВЯРТАННЯ З ТАГО СВЕТУ



## Тамара БАГДАНАВА:

# "Я ПРАВАДНІК БОЖАЙ ВОЛІ"



Яна -- дзіўны мастак, ні на кога не падобны. Яна вышывае прыгожыя пейзажы, стварае іконы. Вышыўка на яе карцінах -- аб'ёмная, рэльефная. Не знікае адчуванне, што карціны жывыя. То матылёк сядзе на кветачку, прымусіць углядвацца, ці не трапечуць ягоныя крылцы ад ветру, то гучанне звона на карціне адчуваецца фізічна, і здаецца, быццам звон ачышчае цябе. Нічога падобнага ні ў аднаго з мастакоў нікoлі не сустракала. Таму, калі ўбачыла працы Тамары Багданавай на выставе ў карціннай галерэі Ірыны Ціхановіч, што ў Мінскім палацы шлюбаў, то вельмі захацелася пазнаёміцца з мастачкай.

Так я апынулася ў яе дома, які служыць ёй адначасова і майстэрняй. "Якая прыгажосць!" -- усклікнула я, увайшоўшы ў звычайную, як здавалася спачатку, кватэру. Уздоўж сцен -- працы мастачкі. Іконы, пейзажы, нацюрморты. "Як, мабыць, прыемна тут жыць", -- падумала я.

Тамара Уладзіміраўна пра сябе кажа, што слова "мастак" для яе занадта высокае, а яна простая вышывальшчыца. Што ж, адно другому не пярэчыць. Вышывае Тамара Уладзіміраўна адзінаццаты год. Спецыяльна гэтаму нідзе не вучылася. Больш за дваццаць гадоў яна працавала грымёрам у Мінскім тэатры музычнай камедыі. Тады і ў думках не было, што пачне вышываць і яе выставы будуць праходзіць у Беларусі, за мяжой.

Праз год пасля нараджэння другой дачушкі Тамара Уладзіміраўна нечакана захварэла. Ёй паставілі страшны дыягназ -- агульнае заражэнне крыві. Тамара Багданава трапіла ў рэанімацыю. Там яна апынулася на мяжы быцця і небыцця -- перанесла клінічную смерць. Яна апісвае свой стан у той момант так:

-- Я бачыла яркі светлы калідор і рухалася па ім наперад. Уздоўж яго стаялі невялікія статуэткі. Разгледзець іх я не змагла.

**НА ЗДЫМКАХ: "Мікалай-Цудатворац"; Тамара Багданава за работай.**

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

## *ДА 130-годдзя "ПІСЬМАЎ З-ПАД ШЫБЕНІЦЫ" КАЛІНОЎСКАГА*

# "ТЫ, НАРОДЗЕ, ВЯЛІКІ І ЧЭСНЫ..."

Янка Брыль, гаворачы пра рускамоўную частку творчасці Максіма Багдановіча, заўважыў -- пра творчасць гэтую, "пра рускамоўнае можна сказаць, што яно -- толькі тое, што **пры галоўным**". У кожнага пісьменніка, відаць, ёсць гэтае галоўнае і негалоўнае. Такім галоўным для Каліноўскага, не лічачы самога яго гераічнага жыцця, створанага па самых высокіх рамантычных канонах, былі "Мужыцкая праўда" і "Пісьмы з-пад шыбеніцы".

Яго развітальным "Пісьмам..." сёлета якраз 130 гадоў. Гэта для нас нагода і, калі хочаце, абавязак яшчэ раз перачытаць іх, а заадно пацікавіцца іхняй гісторыяй.

Дакумент (або цыкл дакументаў) вялікай публіцыстычнай моцы "Пісьмы з-пад шыбеніцы" напісаны Каліноўскім у зняволенні ў камеры віленскай Дамініканскай турмы і патаемнымі каналамі перасланы ім на волю. Праз тры гады пасля страты рэвалюцыянера "Пісьмы..." апублікаваны ў Парыжы вядомым удзельнікам паўстання Агатонам Гілерам (1831--1887). Паколькі ён адыграў надзвычай важную ролю ў публікацыі спадчыны Каліноўскага, неабходна бліжэй з ім пазнаёміцца. Родам з-пад Каліша, Гілер прамых адносін да Літвы-Беларусі, здаецца, не меў. Рана далучыўся да вызваленчага руху, у 1853 годзе быў высланы ў Сібір, дзе знаходзіўся да 1860 года. У сярэдзіне 1862 года ўвайшоў у ЦНК, належаў да правага крыла "чырвоных", у адрозненне ад Каліноўскага, выступаў супраць арыентацыі на народ, стаяў за шырокае прыцягненне шляхты ў рэвалюцыйную арганізацыю. Удзельнічаў у лонданскіх перагаворах польскіх рэвалюцыянераў з А. Герцэнам і М. Бакуніным. У 1863 годзе як член Нацыянальнага ўрада падтрымліваў сувязі з Познанню, Галіцыяй, эміграцыяй, займаўся паўстанцкай прэсай, рэдагаваў падпольныя газеты "Стражніца" і "Рух". З лета 1863 года ў Дрэздэне, а потым у Лейпцыгу і Бендліконе (Швейцарыя) выдаваў газету "Ойчызна", дзе надрукаваў нямала матэрыялаў з гісторыі паўстання. У 1867--1870 гадах, працягваючы працаваць над гісторыяй паўстання, жыў у Францыі, потым у Галіцыі, Швейцарыі, у 1884 годзе вярнуўся ў Польшчу, дзе неўзабаве памёр.

Супярэчлівасць і своеасаблівасць асобы Гілера адзначыў яшчэ Герцэн, расказваючы ў "Былым і думах" пра лонданскія перагаворы з польскімі дзеячамі: "**Ну, этот**, -- подумал я, -- **приехал подкованный и по-летнему и на шипы, он ничего не уступит на деле и оттого так легко уступает все на словах**". Напомнім, што спрэчка паміж рускімі і польскімі рэвалюцыянерамі ў Лондане ішла найперш пра волю правінцыям (г.зн. Беларусі, Літве, Украіне) і зямлю сялянам. Ёсць нямала адмоўных характарыстык Гілера, зробленых і яго таварышамі па падполлі.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

## ЯК ЗМАГАЦЦА СА ЗЛАЧЫННАСЦЮ

# КАБ НАС НЕ ПАДЗЯЛЯЛІ ГРАНІЦЫ

**Аддзел прававога забеспячэння знешніх сувязей штаба Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь -- падраздзяленне новае, з'яўленне яго выклікана зменамі, якія апошнім часам адбыліся ў нашым грамадстве. Пра яго дзейнасць нашаму карэспандэнту расказаў намеснік начальніка аддзела Сяргей ГАНЧАРОЎ.**

-- У сувязі з распадам былога СССР узнікла шмат праблем, і першымі, хто з імі сутыкнуўся, былі органы ўнутраных спраў. Вялікая дзяржава падзялілася на асобныя суверэнныя краіны, і злачынцы адразу атрымалі магчымасць хавацца ад правасуддзя на тэрыторыі іншай краіны без афармлення візы і складанай працэдуры перасячэння дзяржаўнай мяжы. Раней аб міжнароднай злачыннасці мы ведалі па дэтэктывах і кінафільмах, а займалася ёю выключна пракуратура і МУС СССР, усе справы адразу ж перадаваліся ў Маскву. Сёння ж пра міжнародную злачыннасць мы гаворым і чуем не менш, а то і больш, чым пра ўнутраную. Справа ў тым, што калі расіянін, латыш ці прадстаўнік любой іншай дзяржавы былога СССР здзейсніць злачынства ў Беларусі -- гэта ўжо міжнародная злачыннасць. Таксама ж будуць разглядацца супрацьпраўныя дзеянні беларуса за межамі рэспублікі. Праблему ўскладняе яшчэ і тое, што Беларусь мяжуе і з Усходам, і з Захадам, іншымі словамі, мы з усіх бакоў акружаны суверэннымі дзяржавамі, на тэрыторыях якіх дзейнічаюць іх уласныя законы, і мы не можам праводзіць там свае следчыя і аператыўныя дзеянні. Дарэчы, спярша па старой прывычцы ніхто на гэтыя забароны ўвагі не звяртаў, пакуль не пачаліся канфлікты.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*МІЖУРАДАВЫЯ ПЕРАМОВЫ*

У час святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у загараднай рэзідэнцыі беларускага ўрада ў Заслаўі адбыліся перамовы паміж прэм'ер-міністрам Расіі В.Чарнамырдзіным і прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь В.Кебічам. Перамовы завяршыліся падпісаннем двухбаковых міжурадавых дакументаў. Адзін з іх -- Пратакол аб рэалізацыі Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі. Пратакол прадугледжвае, што бакі да канца ліпеня 1994 года вызначаць парадак ажыццяўлення Цэнтральным банкам Расіі эмісіі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь праз Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь. Да гэтага тэрміну будзе вырашаны механізм абмену разліковых білетаў Нацыянальнага банка Беларусі на грашовыя знакі Цэнтральнага банка Расійскай Федэрацыі.



НА ЗДЫМКУ: у час падпісання міжурадавых дакументаў.

*ПАСЛЯ ПАДЗЕІ*

## ПРАВАЯ РУКА НЕ ВЕДАЕ, ШТО РОБІЦЬ ЛЕВАЯ

"Такога свята ў нас яшчэ не было", -- так падвёў вынікі ўрачыстасцей, прысвечаных 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Мечаслаў Грыб. На праведзенай 5 ліпеня прэс-канферэнцыі ён адзначыў, што Вярхоўны Савет, Савет Міністраў, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт зрабілі ўсё неабходнае, каб свята прайшло ўрачыста і арганізавана. І хоць на гэты раз органы ўлады не займаліся фарміраваннем калоны ветэранаў, многія ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны прыйшлі ў гэты дзень разам са сваімі сем'ямі на плошчу Перамогі. "Кожны грамадзянін нашай рэспублікі мае права пакланіцца памяці загінуўшых. Перамога ў нас на ўсіх адна", -- сказаў Мечаслаў Грыб. У сувязі з гэтым кіраўнік парламента заявіў аб неразуменні дзеянняў работнікаў органаў унутраных спраў, якія не прапусцілі да Вечнага агню для ўскладання вянкоў і кветак калону ветэранаў, арганізаваную Беларускім народным фронтам. Ён сказаў, што даручыў свайму першаму намесніку Вячаславу Кузняцову разабрацца ў прычынах такіх дзеянняў АМОНа і паведаміў, што па гэтаму здарэнню Пракуратурай праводзіцца расследаванне.

*ВЫСОКАЯ АЦЭНКА*

## БЕЛАРУСЬ — ПРЫКЛАД ДЛЯ ІНШЫХ

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечаслаў Грыб атрымаў пасланне генеральнага сакратара ААН Бутраса Галі, у якім выказваецца глыбокая ўдзячнасць за цёплую гасціннасць, аказаную яму і дэлегацыі ААН у час афіцыйнага візіту ў Рэспубліку Беларусь.

У пасланні генеральнага сакратара ААН утрымліваецца высокая ацэнка перагавораў, што адбыліся паміж ім і Старшынёй Вярхоўнага Савета, якія тычацца Беларусі і Аб'яднаных Нацый.

Адзначаецца, што "Рэспубліка Беларусь служыць прыкладам для іншых дзяржаў -- членаў ААН у сваім дальнабачным рашэнні па ядзернаму раззбраенню, якое ўяўляе сабой пазітыўны крок у руху да нашых агульных мэтаў глабальнага нераспаўсюджвання ядзернай зброі".

Б.Бутрас Галі таксама яшчэ раз пацвярджае салідарнасць Аб'яднаных Нацый з народам Беларусі, які так пацярпеў ад чарнобыльскай катастрофы і выказвае ўпэўненасць, што "Аб'яднаныя Нацыі выкарыстаюць усе магчымасці для аказання дапамогі Беларусі ў пераадоленні сур'ёзных вынікаў гэтай трагедыі".

*З НАШАЙ КІШЭНІ*

## ДАРАГІ ПРЭЗІДЭНТ

Правядзенне другога тура галасавання абышлося бюджэту рэспублікі ў 15,9 мільярда рублёў.

Друкаванне бюлетэняў, дакументацыі, аплата работы членаў камісій і многага іншага, што напрамую звязана з выбарамі першага Прэзідэнта рэспублікі, пазбавіла кожнага жыхара Беларусі, уключаючы немаўлят, 14 тысяч рублёў.

Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў Цэнтрвыбаркоме, на арганізацыю першага тура галасавання выдаткавана 48 мільярдаў рублёў, прычым гэта сума не ўключае грошы, выдзеленыя кандыдатам ў прэзідэнты на правядзенне агітацыйнай кампаніі.

*БЕЛАРУСКАЯ МАРКА*

## "МАНАЛІТАМ" ЗАЦІКАВІЛІСЯ

Упершыню на міжнароднай прамысловай выстаўцы ў Лондане прадстаўлена прадукцыя аб'яднання "Маналіт" з Беларусі.

Каля 20 замежных фірмаў ужо выказалі жаданне закупляць кандэнсатары, п'езакераміку, ізалятары, якія выпрабляе абъяднанне, а таксама некаторыя тавары бытавога спажывання.

## ЗА КАМЕРЦЫЙНЫ ПРЭСТЫЖ

Статуэтка, якая адлюстроўвае Бога гандлю Меркурыя, уручана прадстаўніку брэсцкага завода "Газаапарат" у Мадрыдзе. Еўрапейскі інстытут маркетынгу ўдастоіў калектыў прадпрыемства ганаровай узнагароды "За камерцыйны прэстыж".

*БРАЦТВА СЛАВЯНСКІХ НАРОДАЎ*

## БУДЗЕ ХРАМ-СІМВАЛ



Па благаславенню свяцейшага патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія II Міжнародны фонд славянскай пісьменнасці і культуры ўзвёў на стыку граніц Расіі, Украіны і Беларусі брацкі Паклонны крыж у памяць найвялікшых славянскіх асветнікаў Кірылы і Мяфодзія.

-- Увянчаны абразам жываначальнай тройцы крыж з'яўляецца абяцаннем таго, што на гэтым месцы будзе ўзведзены праваслаўны храм, які асвяціць землі Расіі, Украіны і Беларусі, -- гаворыць прэзідэнт Міжнароднага фонду пісьменнасці і культуры Вячаслаў Клыкаў. -- Белакаменныя парталы храма будуць упрыгожаны разнымі фігурамі святых славянскіх падзвіжнікаў: каля паўднёвага партала -- княгіня Вольга і князь Уладзімір, каля паўночнага -- Сергій Радонежскі і Аляксандр Неўскі, каля заходняга -- Кірыла Тураўскі і Ефрасіння Полацкая. Асвячэнне храма плануецца здзейсніць у год святкавання 2000-годдзя Нараджэння Хрыстова.

НА ЗДЫМКУ: брацкі Паклонны крыж.

*СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА*

## МАЛА АХВОЧЫХ ДА НАВУКІ

У апошнія чатыры гады ў Беларусі пастаянна скарачаецца колькасць аспірантаў. Калі на 1 студзеня 1990 года іх налічвалася 3 023, то ў 1993 годзе на 407 чалавек, або 13 працэнтаў, менш, а ў пачатку гэтага года -- толькі 2 616 чалавек, у тым ліку 1 143 жанчыны. Асабліва прыкметна скарачэнне колькасці тых, хто вучыцца ў аспірантурах НДІ. Калі ў пачатку 1990 года іх удзельная вага складала 36 працэнтаў, то 1 студзеня 1994 года -- ужо 28.

## БЕДНАЯ КУЛЬТУРА, ЖАБРАЧАЕ МАСТАЦТВА

Спецыялістамі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі складзена табліца суадносін сярэднямесячнай заработнай платы работнікаў розных галін народнай гаспадаркі да зарплаты рабочых і служачых прамысловасці.

Паводле гэтых даных, калі сярэднюю зарплату работнікаў прамысловых сфер у другім квартале бягучага года (425 тысяч 54 рублі) лічыць за 100 працэнтаў, то карціна выглядае наступным чынам: банкаўскія арганізацыі -- 204,8 працэнта; камерцыйныя структуры -- 192,2 працэнта; будаўніцтва -- 119,1 працэнта; апарат органаў дзяржаўнага кіравання -- 116,6 працэнта; транспарт -- 108,1 працэнта; ахова здароўя, фізкультура і сацзабеспячэнне -- 96,1 працэнта; адукацыя -- 93,4 працэнта; навука і навуковае абслугоўванне -- 93,2 працэнта; культура -- 79,7 працэнта; мастацтва -- 72,1 працэнта.

*ІНФЛЯЦЫЯ*

## МЭТА НЕДАСЯГАЛЬНАЯ

Праўленне Нацыянальнага банка Беларусі зацвердзіла аб'ём крэдытнай эмісіі Нацбанка на трэці квартал 1994 года ў памеры 1 трыльён 425 мільярдаў рублёў. Крэдытная эмісія ўсёй банкаўскай сістэмы эканомікі і ўрада ў трэцім квартале бягучага года складзе больш за 7 трыльёнаў рублёў.

Як вядома, асноўнымі напрамкамі грашова-крэдытнай палітыкі рэспублікі, якія былі зацверджаны Нацыянальным банкам, прадугледжвалася зніжэнне інфляцыі да ўзроўню менш за 10 працэнтаў да канца 1994 года. Аднак катастрафічнае падзенне вытворчасці, прамаруджванне з эканамічнымі рэформамі патрабуюць пастаянных фінансавых уліванняў. І, мяркуючы па зацверджаным аб'ёме крэдытнай эмісіі, зніжэнне інфляцыі да абяцанага 10-працэнтнага ўзроўню наўрад ці магчыма.

*ЛАЎРЭАТЫ*

## РОССЫПЫ ТАЛЕНТАЎ

Адразу трох лаўрэацкіх званняў і аднаго дыплома ўдастоіліся пасланцы нашай рэспублікі на Міжнародным конкурсе юных музыкантаў імя Дварыёнаса, які традыцыйна праводзіцца ў Вільнюсе. У ліку пераможцаў -- вучні ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі піяністы Марыя Палазкова, Вольга Сцяжко і Дзяніс Маслюк, а таксама вучань мінскай дзіцячай музычнай школы N 2 Арцём Шышкоў. А першакурснік Акадэміі музыкі Дзмітрый Марозаў вызначыўся сваім выканаўчым майстэрствам на 40-м конкурсе піяністаў у Барселоне. Аўтарытэтнае журы прысудзіла яму другое месца.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

СТАРШЫНЯ Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў А.Герасіменка ўручыў першыя пасведчанні на права атрымання пенсіі за асобыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь Науму Вайняровічу -- народнаму артысту БССР, Мікалаю Яроменку -- народнаму артысту БССР і СССР, Паўлу Кармуніну -- народнаму артысту БССР, Уладзіміру Мікулічу -- Герою Сацыялістычнай Працы, Галіне Арловай -- народнай артыстцы БССР, Стэфаніі Станюта -- народнай артыстцы БССР і СССР, Марыі Трусавай -- заслужанаму ўрачу БССР, Івану Шамякіну -- народнаму пісьменніку БССР.

У МІНСКІМ духоўным вучылішчы пры епархіяльным упраўленні адбыўся чарговы выпуск навучэнцаў. 24 псаломшчыкам уручаны пасведчанні аб яго заканчэнні. На ўрачыстым вечары быў прысутны патрыяршы экзарх усяе Беларусі мітрапаліт Філарэт.

УЧЫНЕНЫ замах на ўрадавага сакратара па пытаннях бяспекі Г.Данілава. Ноччу ў пад'ездзе дома, у якім жыве высокапастаўленая асоба, узарвалася бомба. Дзяржсакратар, які ў гэты час вяртаўся дамоў, атрымаў лёгкую кантузію. Вядзецца следства.

ЛАТВІЯ передала Беларусі каштоўнасці, затрыманыя на граніцы пры спробе вывезці з Беларусі. Гэта нашы іконы, мастацкія каштоўнасці. Іх кошт складае каля 40 тысяч долараў. Такі крок разглядаецца нашай дыпламатыяй як жаданне Латвіі наладзіць добрасуседскія адносіны з Рэспублікай Беларусь.

АДБЫЛОСЯ асвячэнне месца пад будаўніцтва грэка-каталіцкай царквы ў імя Божай Маці Нястомнай Дапамогі. У цырымоніі прынялі ўдзел візітатар Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў для грэка-католікаў Беларусі айцец Сяргей Гаек, апостальскі візітатар для беларусаў у свеце айцец Аляксандр Надсон. Храм будзе ўзведзены на вуліцы П.Глебкі ў Мінску.

## ПАСЛЯ КАНФЛІКТУ Ў ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ

## Зянон ПАЗЬНЯК:

# "НІДЗЕ Ў СВЕЦЕ НЯМА КРАІНЫ, У ЯКОЙ БЫ ТАК НЕ ПАВАЖАЛІ СВОЙ НАРОД"

3 ліпеня, у Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, ветэранам, якія ішлі ў калоне з актывістамі БНФ, не далі прайсці да помніка Перамогі і ўскласці да яго вянкі і кветкі.

Згодна з рашэннем Мінгарвыканкома, калона БНФ павінна была ісці разам з афіцыйнай калонай дэманстрантаў ад плошчы Незалежнасці да плошчы Перамогі. Менавіта ў гарвыканкоме настаялі, каб калона БНФ ішла не сваім маршрутам, як задумвалася ў Народным фронце спачатку, а асобнай калонай разам з афіцыйнай.

Калона БНФ дайшла да цырка. Там ёй перагарадзіў дарогу кардон міліцыі ў колькасці каля 150 чалавек, якія стаялі ў тры рады. Аднак калона БНФ была вялікая, і спыніць яе раптам было немагчыма. Людзі прайшлі праз кардон міліцыі. Іх спынялі яшчэ раз. Аднак яны здолелі дайсці амаль да самой плошчы, дзе іх сустрэлі дзевяць шэрагаў АМОНу і міліцыі. Да калоны БНФ падбеглі людзі і пачалі абражаць ветэранаў. Сярод апошніх былі пісьменнік Васіль Быкаў, прафесар Мікалай Крукоўскі, адзін з аўтараў манумента Перамогі архітэктар Георгій Заборскі, які, мабыць, ніколі не думаў, што прыйдзе час, калі ён не зможа падысці да свайго помніка. Калона БНФ ішла пад дзяржаўнымі сцягамі з нацыянальнай сімволікай і пад сцягамі краін антыгітлераўскай кааліцыі.

У панядзелак, 4 ліпеня, ва ўправе БНФ прайшла прэс-канферэнцыя, на якой выступілі В. Быкаў, З. Пазьняк, М. Крукоўскі. Прафесар Крукоўскі, ветэран Айчыннай вайны і былы начальнік штаба партызанскага атрада 2-й Заслонаўскай партызанскай брыгады, паведаміў, што супраць ветэранаў, якія ішлі ў калоне БНФ, была ўжыта фізічная сіла. З грудзей Мікалая Крукоўскага зрывалі ўзнагароды. Нейкія людзі піхнулі пажылую жанчыну, якая апынулася на зямлі пад нагамі дэманстрантаў, на што АМОН ніяк не адрэагаваў. На шчасце, яе не пакалечылі. Спадар Мікалай Крукоўскі ўзяў з сабой на святкаванне Дня вызвалення дачку і ўнука. У дванаццацігадовага хлопца аказаўся разбіты гадзіннік.

Прафесар Крукоўскі заявіў: "Гэта была знявага чалавечай годнасці заслужаных паважаных людзей. Калі прэс-цэнтр МУС сцвярджае, быццам калону БНФ стрымлівалі, каб пазбегнуць сутычак, каб абараніць нас нейкім чынам, то я заяўляю, што гэта няпраўда. Калі нас спынілі ля цырка, то да першай калоны было каля 400 метраў. Нас не было ад каго ахоўваць. Пазней да нас падыходзілі людзі з афіцыйнай калоны і казалі, што іх абражалі за беларускую гаворку і зняважліва казалі, што іх месца ў калоне БНФ. Я гэта разглядаю як дзеянне па распальванню нацыянальнай варожасці. Варта, каб юрысты разгледзелі гэты аспект здарэння. Але юрысты наўрад ці знойдуць магчымасць ацаніць з пункту гледжання закона зневажэнне прадстаўнікамі дзяржаўнай улады нацыянальнай сімволікі. На плошчы Перамогі не было бачна дзяржаўных сцягоў Беларусі. Там былі толькі чырвоныя сцягі. Мы назіралі жахлівае зневажэнне беларускага народа, бо менавіта ў той момант, калі ветэраны не маглі прайсці да плошчы Перамогі, на ёй В. Кебіч і В. Чарнамырдзін заканчвалі перамовы па продажу Беларусі".

Народны пісьменнік Беларусі, ветэран Айчыннай вайны Васіль Быкаў заўважыў, што рэжым, які пануе на Беларусі, паказаў сваю няздольнасць да гаспадарання, да арганізацыі жыцця грамадства ў новых умовах. В. Быкаў падкрэсліў: "Кіраўніцтва рэспублікі выбрала свой сродак уздзеяння на людзей -- дэманстрацыю сілы, улады. Яно паказала непавагу да дзяржаўнай сімволікі беларусаў. На плошчы вылучаўся вялізны транспарант, на якім было напісана: "Да здравствует Советский Союз!" Беларусь уступае ў новы чырвона-карычневы перыяд, перыяд панавання камуна-фашысцкіх сіл. Але нават калі Беларусь стане суб'ектам федэрацыі ці губерняй, яна застанецца ачагом супраціўлення дэмакратыі і таталітарызму ў цэнтры Еўропы".

Народны дэпутат Беларусі, старшыня ўправы БНФ З. Пазьняк назваў інцыдэнт на плошчы Перамогі "спекуляцыяй на чужой крыві" і сказаў наступнае: "Большага хамства, большай подласці, большай знявагі памяці майго загінуўшага на вайне бацькі, памяці ахвяр вайны і жыцця маёй маці я не бачыў за ўсё сваё жыццё.

Дзяржаўныя асобы Вярхоўнага Савета, Савета Міністраў пасля трохмесячнай падрыхтоўкі да святкавання Дня вызвалення, адгарадзіўшыся ад часткі ветэранаў, ад БНФ, гаварылі свае прамовы. Што можа быць больш дзікае ў краіне, якая згубіла на вайне кожнага чацвёртага чалавека? Я ўсё больш усведамляю, што другую сусветную вайну развязалі два таталітарныя рэжымы — сталінскі Савецкі Саюз і гітлераўская Германія. Цяпер стала відавочнай агульная прырода камуна-фашызму, які мы яшчэ раз убачылі 3 ліпеня перад сабой.

Наш народ у час вайны трапіў паміж молатам і кавадлам -- паміж фашызмам і камунізмам. Людзі ваявалі, іх грабілі немцы, партызаны. Яны пражылі цяжкае жыццё. Цяпер ім па 80 гадоў. У іх мізэрная пенсія, і іх не лічаць за людзей. Яны -- смецце для наменклатуры. Састарэлы аўтар помніка для іх ніхто, ён ім не патрэбны. Дзе мараль нашага грамадства? За спінамі АМОНу пад камуна-фашысцкімі сцягамі стаялі людзі, якія кіруюць нашай дзяржавай, ненавідзяць свой народ і абыякавыя да ягоных ахвяраў у другой сусветнай вайне".

Зянон Пазьняк запэўніў прысутных, што БНФ ніколі не пойдзе ні на якую правакацыю. Менавіта каб не ствараць канфліктнай сітуацыі, калона БНФ 3 ліпеня па сваёй ініцыятыве павярнула ад плошчы Перамогі ў сквер Янкі Купалы. З. Пазьняк асабліва падкрэсліў, што звернецца ў пракуратуру, каб там разгледзелі законнасць дзеянняў міліцыі. Пра апошнюю З. Пазьняк сказаў, што яе падставілі чарговы раз. З. Пазьняк збіраецца дабівацца, каб было названа імя чалавека, які аддаў загад не даць прайсці калоне БНФ да помніка.

Нават калі такое імя не пабаяцца назваць (што здаецца нерэальным), факт застаецца фактам: мы жывем у краіне, дзе не паважаюць людзей, дзякуючы крыві і жыццю якіх, яна не знікла з карты свету 50 год назад. У некага паднялася рука падзяліць гэтых людзей на сваіх і чужых. Сярод тых, хто трапіў 3 ліпеня на плошчу Перамогі, распальвалі нянавісць да тых, хто ішоў у калоне БНФ. Гэтае злоснае пачуццё можа, як бумеранг, вярнуцца назад. Страшна падумаць, што тады можа здарыцца з беларускім народам і што адбудзецца з ветэранамі, якія 50 гадоў таму сядзелі ў адных акопах, абаранялі адну зямлю і разам марылі пра шчаслівае жыццё пасля вайны.

**Алена СПАСЮК.**

---

# КАБ НАС НЕ ПАДЗЯЛЯЛІ ГРАНІЦЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Сапраўды, паспрабуйце ўявіць сабе сітуацыю, калі наш міліцыянер едзе ў Францыю ці ў Англію і некага там ловіць, не паведаміўшы аб гэтым праваахоўным органам тых краін і не атрымаўшы іх дазволу на гэта. Так што неабходнасць рэгулявання міждзяржаўнай прававой дзейнасці вельмі хутка стала відавочнай. Першыя дагаворы мы заключылі з Літвой і Латвіяй.

-- А з якімі краінамі далёкага замежжа зараз супрацоўнічае МУС Беларусі?

-- З Польшчай і Італіяй.

-- А чаму менавіта з Італіяй?

-- Справа ў тым, што Беларусь становіцца транзітным шляхам для перавозкі наркотыкаў. Для Італіі наркотыкі з'яўляюцца вельмі сур'ёзнай праблемай, і паліцыя робіць усё магчымае, каб перакрыць шляхі транспарціроўкі. Таму італьянцы самі прапанавалі нам заключыць пагадненне аб уключэнні Беларусі ў адзіную камп'ютэрную сетку, вучаць нашых спецыялістаў, пастаўляюць нам абсталяванне. Таксама заканчваем падрыхтоўку міжурадавага дагавора з ФРГ па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, тэрарызмам і наркотыкамі. Хутка будуць падпісаны дагаворы з Аўстрыяй, Балгарыяй, вядуцца перагаворы са Швецыяй, Вялікабрытаніяй, Румыніяй, Славакіяй, Турцыяй...

-- Ці звязана іх зацікаўленасць у супрацоўніцтве з намі са страхам перад так званымі рускімі, што павалілі на Захад?

-- Так, зараз гэта стала праблемай. "Руская мафія" прыйшла на Захад і дзейнічае метадамі, дагэтуль там невядомымі, таму з ёю цяжка змагацца. Вельмі многа складанасцей узнікае ў Польшчы, куды выязджае шмат нашых грамадзян па турысцкіх пуцёўках, прыватных запрашэннях і на рынкі. Разам з імі едзе туды і наш рэкет. Так што не палякі вінаватыя ў злачынствах супраць нашых грамадзян, а наадварот, нашы грамадзяне ваююць супраць "сваіх" на польскай тэрыторыі. Гэта значна ўскладняе жыццё палякаў. Да таго ж нападаюць на людзей, як правіла, калі яны ўжо накіроўваюцца дамоў, з грашамі, прадаўшы ўсё на рынку, і многія беларусы заяўляюць, што іх абрабавалі, толькі пасля таго, як перасякуць мяжу. А мы ўжо не можам нічога зрабіць, таму што злачынства адбылося на тэрыторыі іншай дзяржавы, палякі, у сваю чаргу, на нашы запыты адказваюць, што ніхто ім аб гэтым не паведамляў, каго і на якіх падставах шукаць і затрымліваць. Між тым, гэтая злачыннасць турбуе іх не менш, чым уласная.

-- Што ж у такой сітуацыі можна зрабіць?

-- Самае галоўнае -- гэта апаратыўны абмен інфармацыяй, і калі злачынца, які ў Польшчы парушыў закон, хаваецца на нашай тэрыторыі, мы павінны адразу даведацца аб гэтым, каб хутка прыняць меры. Ёсць і яшчэ адна складанасць: нашы ўзаемаадносіны з польскімі праваахоўнымі органамі будуюцца на дагаворы 1957 года. Паколькі ён быў заключаны яшчэ з Савецкім Саюзам, то ён не заўсёды дзейнічае. Зараз з Польшчай распрацоўваецца новы міжнародны дагавор, і, калі ён будзе падпісаны, з'явіцца прававая аснова для нашага супрацоўніцтва.

-- Апошнім часам у нашых праваахоўных органаў і грамадзян было шмат прэтэнзій да так званых "асоб каўказскай нацыянальнасці". Як яны паводзяць сябе тут зараз?

-- Сёння яны турбуюць нас значна менш. Мабыць, таму што спрацавалі прынятыя меры па абмежаванню іх уезду сюды (тым больш, што яны падпарадкоўваюцца палажэнню аб замежных грамадзянах), можа таму, што за апошні час у Беларусі пагоршыліся ўмовы жыцця і наша рэспубліка цяпер перастала так іх прыцягваць...

-- Якія адносіны ў Беларусі з Інтэрполам?

-- У 1993 годзе Беларусь уступіла ў Інтэрпол. У нас пры Міністэрстве ўнутраных спраў створана нацыянальнае бюро гэтай міжнароднай арганізацыі. Мы маем магчымасць выходзіць на цэнтральнае бюро Інтэрпола і праз яго атрымліваць неабходную інфармацыю.

-- З якімі просьбамі да вас звяртаюцца найчасцей?

-- Што тычыцца далёкага замежжа, то гэта ў асноўным пошукі выкрадзеных аўтамабіляў. Аднойчы да нас звярнуліся шведы: былі ўкрадзены некалькі "Мерседэсаў", якія транзітам ішлі па тэрыторыі Беларусі. Машыны мы знайшлі і вярнулі, хаця гэта вельмі складана. Выкрадзеныя аўтамабілі хутка пераганяюць у паўднёвыя рэспублікі ці ў Расію, і тады знайсці іх ужо немагчыма. Ёсць прыклады ўдалага супрацоўніцтва ў галіне спынення перавозу наркотыкаў. Нядаўна мы, дзякуючы паступіўшай да нас інфармацыі, затрымалі ў Гродне некалькі тон гашышу. Бываюць запыты аб вызначэнні асобы і вышуку злачынцы. Здараецца, што па атрыманай інфармацыі мы знаходзім патрэбнага чалавека і затрымліваем яго, але ж тут паўстае пытанне, як яго выдаць, калі няма адпаведнага дагавора паміж зацікаўленымі дзяржавамі. Мы не можам не толькі выдаць, але нават не маем права затрымліваць яго. Дагэтуль дагаворы аб прававой дапамозе з рэспублік былога СССР у нас заключаны толькі з Латвіяй і Літвой. У студзені 1993 года ўсе кіраўнікі дзяржаў СНД падпісалі канвенцыю аб прававой дапамозе, але дагэтуль яна ратыфікавана толькі трыма дзяржавамі -- Беларуссю, Казахстанам і Узбекістанам. Такім чынам, канвенцыя дзейнічае толькі ў адносінах гэтых трох дзяржаў.

-- Дык можа лепш было б, каб расійскі прэзідэнт замест таго, каб выдаваць новыя законы аб барацьбе са злачыннасцю, паклапаціўся аб тым, каб пачалі дзейнічаць старыя?

-- Канешне, калі б канвенцыя аб прававой дапамозе пачала дзейнічаць, можна было б чакаць станоўчых вынікаў.

-- Але для такой работы патрэбна добрае тэхнічнае забеспячэнне. Як у вас з гэтым?

-- Вельмі балючае пытанне. Самае большае, што мы можам сабе дазволіць, -- гэта паставіць адзін камп'ютэр у кабінеце. Цяпер распрацоўваецца вельмі многа розных праграм дапамогі нашаму МУС, але ўсе яны -- у перспектыве. Да нас прыязджаюць прадстаўнікі праваахоўных органаў Захаду, яны з цікавасцю знаёмяцца з абстаноўкай, з тым, як мы працуем. Падказваюць, даюць рэкамендацыі, але самі добра разумеюць, што пры нашым тэхнічным узроўні выканаць іх будзе цяжка. Мы пакуль што бяром колькасцю нашых супрацоўнікаў і тым, што яны гатовы працаваць і ўдзень, і ўначы, без машыны, бензіну і камп'ютэра. Думаю, што калі б замежным паліцэйскім давялося працаваць тут, ім было б цяжка. Затое, калі наш супрацоўнік трапіў па кантракту ў Амерыку і два гады прапрацаваў у паліцыі штата Нью-Йорк, яны дасылаюць нам ліст за лістом, каб пакінуць яго там яшчэ на даўжэйшы час. Так што, калі б у нашых супрацоўнікаў былі добрыя ўмовы працы, яны многа чаго зрабілі б...

**Гутарку вяла Вераніка ЧАРКАСАВА.**

ПІСЬМЫ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

# ДЫК ХТО Ж КАЛАБАРАНТ?

У вашай газэце N 17 з дня 28-га красавіка 94 года была змешчана гутарка Ніла Гілевіча з карэспандэнтам "ГР" Галінай Уліцёнак. У гутарцы была ўспомнена Айчынная вайна. Хацеў бы наконт гэтага выказаць і сваю думку.

Беларусь не была незалежнай дзяржавай. Яе народ, як і іншыя нерасейскія народы тагачаснага Савецкага Саюза, быў зняволеным народам сталінскай дыктатурай. Народы нерасейскія сталінская хэўра камуністаў гнала пад страхам смерці на вайну з фашысцкай Германіяй, якая напала на Савецкі Саюз. Ці ж не было таго нялюдскага няпісанага закону, што савецкі баец не адступае і не мае права здавацца ў палон? Крок назад -- і ты ўжо "здраднік радзімы", а такім пагражала смерць. Таму такую вайну, на якую гналі каланізаваныя і зняволеныя народы СССР, немагчыма назваць "айчыннай", гэта камуністычныя гісторыкі для прапаганды прыдумалі.

Перш чым паказваць пальцам на беларускіх калабарантаў, трэба запытацца саміх сябе: "Хто быў першым калабарантам Гітлера?" Ці не Сталін і яго камуністычная хэўра? Падпісаўшы ўмову з Германіяй аб "ненападзенні", камуністы далі Гітлеру свабоду руху на ўсход і захад. Масква і Берлін былі месцамі перагавораў камуністычных калабарантаў з фашыстамі. Нават вайсковыя нямецкія місіі наведвалі Савецкі Саюз, вучылі сталінскіх афіцэраў. І сам Сталін, прымаючы Рыбентропа ў Маскве, піў "за здоровье любимого германским народом вождя -- Гитлера". Нават тады, калі лілася ўжо кроў ангельскага і французскага жаўнера на франтах другой сусветнай вайны, калабарацыі Сталіна з Гітлерам не было відаць канца. Калі ж нямецкая армія напала на Савецкі Саюз, Чырвоная Армія адступала, не даючы ніякага супраціву, кідаючы на дарогах лёгкую і цяжкую зброю, здаючыся масава ў палон, адмовіўшыся ваяваць за Сталіна і камунізм. Англія ў тым часе засталася адзінокай, бо яе саюзныя дзяржавы былі разбіты нямецкай арміяй, тады Чэрчыль падаў руку Сталіну, нягледзячы на яго калабарацыю з Гітлерам, і яны падпісалі ўмову бараніцца разам перад фашызмам. Сталіну не было выхаду, бо над ім і яго камунізмам вісела гітлераўская пятля.

Заняўшы беларускія землі, пераважна Заходнюю Беларусь, немцы не мелі планаў адміністрацыі, таму далі палякам права арганізаваць паліцыю, арганізаваць сельскія, мястэчковыя і гарадскія ўстановы як былыя "гміны", "ваявудствы", "камісарыяты паліцыі" па вялікіх гарадах, а па вёсках паліцыйныя пастарункі. Уся ўлада ў Заходняй Беларусі трапіла ў рукі палякаў, і яны пачалі гаспадарыць так, як на сваіх "крэсах усходніх". Беларускія дзеячы, сабраўшыся ў Менску, прыглядаліся на такое ненармальнае з'явішча, а немцам не балела галава, хто кіруе адміністрацыяй, абы яна такая была, абы ўтрымаць сякі-такі парадак на занятых тэрыторыях. Беларусы атрымалі ад немцаў права на арганізацыю Беларускай Нацыянальнай Самапомачы. Пасля замянілі на Народную Самапомач. Пачуўшы, што палякі маюць намер на заходніх землях Беларусі арганізаваць польскія школы, а ў Баранавічах ужо паўстаў "Інспэктарат школьны" і пачала выходзіць польская газэта, запратэставала. Нямецкія ўлады выслухалі пратэст БНС і забаранілі палякам арганізаваць польскія школы на тэрыторыі Беларусі. У пачатку 1942 года пачалі паказвацца польскія партызаны Арміі Краёвай (АК). Немцы заўважылі, што АК супрацоўнічае з польскай паліцыяй і польскай адміністрацыяй, таму арыштавалі адміністратараў і польскіх камандантаў паліцыі як па вёсках, мястэчках, так і ў гарадах і перадалі кіраванне ў рукі беларусаў. Такім парадкам пачала арганізоўвацца беларуская паліцыя для абароны жыхарства перад грабяжом польскімі легіёнамі, партызанамі АК і сталінскімі партызанамі, якія пачалі выходзіць з лясоў і грабіць беларускае насельніцтва. Не ёсць праўдай, што былі беларускія карныя аддзелы, якія забівалі насельніцтва, палілі вёскі. Гэта была камуністычная прапаганда. Былі карныя аддзелы нямецкага СД і СС, і былі карныя аддзелы РОА (Русская освободительная армия). І там, дзе арганізавалася камуністычная партызанка, не было памілавання нікому. Лавілі камуністаў, камсамольцаў. Злоўленых забівалі на месцы, а маёмасць палілі. Вядома ж, гінулі і нявінныя сяляне. Бо не пыталіся, ці вінаватыя, ці не: вайна заўсёды вайна. Аднак трэба сказаць, што была вялікая правакацыя з боку партызан. У спакойнай вёсцы Налібокі партызаны забілі двух нямецкіх жаўнераў і ўкінулі ў вёску. Жыхары вёскі змушаны былі заявіць нямецкаму пастарунку, які знаходзіўся недалёка. Раз'юшанае СС акружыла вёску, сагналі сялян разам, за аднаго немца расстралялі на месцы па дзесяць жыхароў, рэшту забралі ў машыны і вывезлі ў Нямеччыну. Той, хто змог уцячы, пайшоў у партызаны. У пачатку вайны такіх выпадкаў было многа.

Такім чынам дайшло да разні: бацька ішоў супраць сына і наадварот. Брат супраць брата. Былі выпадкі, што бацька быў у партызанах, а сын у паліцыі.

Не маю намеру абразіць Ніла Гілевіча за тое, што плакаў, убачыўшы "нашых", якія прынеслі "вызваленне". А ці плакалі тыя, убачыўшы "нашых", якіх гналі савецкія энкавэдысты на смерць?

Я думаю, што беларускім дзеячам трэба звярнуць увагу на сённяшняе палітычнае і эканамічнае становішча Рэспублікі Беларусь. Яе незалежнасць і суверэннасць гіне ў руках скамунізаваных і зрусіфікаваных беларусаў і іхніх расейскіх памагатых, бо яны разам у тым Вярхоўным Савеце свядома давялі Беларусь да жабрацтва, каб даказаць, што яна без Расеі загіне, ды каб як найхутчэй увесці Беларусь у федэрацыю з Расеяй.

Вось жа адбудуцца выбары прэзідэнта Беларусі. Трэба, каб такія патрыёты і дзеячы Беларусі, як Ніл Гілевіч, былі выбранымі не толькі за прэзідэнта, але і ў Вярхоўны Савет рэспублікі. Бо ў іншым выпадку загіне незалежнасць і суверэннасць Беларусі.

На эміграцыі я чытаю рэгулярна ангельскую газэту "Guardian". Адзін з яе карэспандэнтаў пісаў: "Беларускі народ ёсць амаль скамунізаваным і зрусыфікаваным народам. Толькі 10 працэнтаў гавораць беларускай мовай і то пераважна на вёсках. Таму цяжка ўвесці беларускую мову і дэмакратыю, бо ўлада ў руках камуністаў". Карэспандэнт газэты "Guardian" піша далей: "Незалежнасць Беларусі ёсць безнадзейнай".

**С.ШЧЭРБА.**

Англія.

# БЕЛАРУСЬ ПАВІННА БЫЦЬ НЕЗАЛЕЖНАЙ

Мне вспомнилось стихотворение Янки Купалы "Будь твердым". Оно подходит к сегодняшней ситуации в Белоруссии, хотя написано в 1912 году (прабачце, а можа і Коласа, гады трацяць дасканаласць). В нем хотелось бы подчеркнуть следующие слова.

**Не проси и не надейся**
**вовсе на подмогу.**
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
**Лишь собьешься, снова будешь**
**обивать пороги.**
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
**Будешь жить чужою силой --**
**образ свой забудешь.**
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
**Лучше вольным, брат, сломаться,**
**чем терпеть да гнуться.**

Мяне, як і іншых беларусаў у блізкім зарубежжы, здзіўляе, як хутка Беларусь траціць сваю самастойнасць, якая так цяжка дасталася.

Няўжо тым, хто стаіць ва ўладзе маладое рэспублікі, незалежнасць не можа быць мэтай, а мэтай стала "рублёвая зона"? Успомніце, што азначае на нашай мове "рубель"? А гэта жэрдка, якой прыціскаюць воз з сенам, саломай, лёнам і гэтак далей. Дык вось, рускі рубель, на нашу думку, адыграе гэтую ролю. Рублём заціснуць тых, хто змагаецца за незалежнасць.

Няўжо вам спадабаецца, калі межы рэспублікі будуць ахоўваць другія, а нашы хлопцы будуць на Каўказе, у Таджыкістане, ва Уладзівастоку і гэтак далей, хаця ім лягчэй было б ахоўваць свой кардон.

Падаткі людзі плацілі б аднаму гаспадару, а зараз, як і раней, двум. Паглядзіце, калі стаяла пытанне аб "рублёвай зоне" ў Беларусі, газеты, радыё, тэлебачанне Расіі гаварылі аб тым, што Расіі гэта нявыгадна, а зараз усе маўчаць, паведамляюць толькі аб тым, што пан Кебіч будзе прэзідэнтам. Прэзідэнт -- гаспадар, бацька, а які бацька не прыме сваіх "блудных дзяцей", а вы якраз і не хочаце прыняць, і яны павінны жыць за межамі вашага дому. Вы думаеце, што ўсе беларусы -- рускія, казахі або кіргізы. Не, гэта не так, таму не выпадкова, прыехаўшы дадому і не бачачы бацькоўскага прыёму, яны селяцца ў прыкардонных абласцях Расіі і Украіны. Чаму? Таму, што апрача бацькі, ёсць маці-Радзіма і лёс яе ім неабыякавы. Самыя малыя народы маюць у Расіі сваю мову, а мы, вялікі народ, не маем, яе так лёгка выцяснілі "любімыя спадары", што дзеці не знаюць яе.

Успомніце, якімі шляхамі вяліся ў рэспубліцы савецкай калгасы, як людзі працавалі па 6 дзён на калгасных палях і 1 дзень -- нядзелю -- на сваіх 30 сотках, а атрымлівалі капейкі. А пазыкі? А дзесятая капа сена для свайго статка і 9 для калгаснага, а забарона выезду моладзі з вёскі і гэтак далей. Няўжо беларусы -- мае сябры і браты -- пра гэта забылі? Успомніце "райскую Советскую Белорусь" і маладую незалежную Беларусь.

З павагай

**ваш сын У. АГАЦІН".**

**P.S.** Прыходзіць думка аб брацкіх рэспубліках. Беларусь была ў ліку вядучых, а зараз? Літва, Малдова, Арменія, Туркменія па эканамічнаму развіццю былі ў другой палове рэспублік. Але яны трымаюць сваю незалежнасць, не ідуць на паклон да другіх дзяржаў, не трацяць сваю незалежнасць. Прэзідэнты або кіраўнікі ўсіх незалежных дзяржаў валодаюць сваёй роднай мовай. Гавораць з народам на іх мове, а не на чужой. Індыя, атрымаўшы незалежнасць, гаворыць на сваёй мове, а не на англійскай.

Калі няма мовы, няма і народа, гэта прамудрасць вядомая здаўна.

# ГОРКАЯ СУСТРЭЧА З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ

12--13 чэрвеня ў Мінску па ініцыятыве Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" адбылася навуковая канферэнцыя "Культура беларускага замежжа". Для ўдзелу ў ёй прыехалі беларусы з многіх краін свету, у тым ліку і дэлегацыя ТБК з Літвы. Лёс раскідаў беларусаў па ўсяму свету, па-рознаму склалася жыццё. Многія з тых, хто апынуўся ў далёкім замежжы, вялі барацьбу за вызваленне Бацькаўшчыны, бо былі ўпэўнены: дзень вызвалення настане, захоўвалі самасвядомасць. І галоўнае, жывучы далёка ад дому, захавалі родную мову, веру ў свой народ.

Вось і я ехала на Бацькаўшчыну з захапленнем, цікаўнасцю, бо ў Мінску, напрыклад, на экскурсіі была, калі вучылася ў школе, а з таго часу ўжо мінула нямала гадоў. Але Мінск робіць такое ўражанне, што знаходзішся ў глыбіні Расіі, дзесь у Іванаве: вуліца Леніна, шыльды па-расійску, мовы сваёй не чуваць, нічога беларускага ў сталіцы Беларусі няма. Далей -- болей. Каля помніка Максіму Багдановічу няма ніводнай кветкі, ляжаў венік, падышоўшы бліжэй, можна было разгледзець галінку бэзу, што даўно высахла і прыбраць якую няма каму. Вайсковыя могілкі зусім запушчаны, у запусценні магілка Якуба Коласа. Вось такая ўдзячнасць нашчадкаў. Дарма я шукала ў Мінску сваё -- беларускае, роднае, кроўнае, але нават у Траецкім прадмесці нічога не знайшла. Уладкаваліся мы ў гатэлі "Беларусь", да Дома літаратараў нас вазіў аўтобус. Уваходзіць маладая жанчына ў аўтобус, прадстаўляецца, не буду называць яе імя -- не гэта галоўнае: "Я работаю в гимназии, преподаю белорусскую мову, но лучше говорить по-русски". Каментарыі тут не патрэбны. Аб якой будучыні можна гаварыць, а тым больш аб свядомасці. І што больш здзівіла: мінскае згуртаванне "Бацькаўшчына" -- паміж сабой размаўляюць па-расійску.

Зусім іншым уяўляла Мінск. Дарэчы, у Вільню часта прыязджалі прадстаўнікі розных згуртаванняў з Мінска, здаецца, размаўляюць па-беларуску, нібыта нешта робяць для захавання нашай культуры, але гэта ўсё на словах толькі. Захапляюцца Вільняй, але ў Літве іншыя адносіны да культуры нацыянальнай, да літаратуры, да рэлігіі і ўвогуле да спадчыны. Іншая свядомасць, іншая актыўнасць моладзі, іншае асяроддзе. Як можна выкладаць і не любіць мову, бо калі выкладчык не размаўляе па-беларуску, ён не можа зацікавіць дзяцей. З'ява фенаменальная. А дзе яшчэ можна сустрэць такі маразм, акрамя Беларусі, каб сесіі розных Саветаў вяліся не на дзяржаўнай мове?

Партыйная наменклатура, якая знішчыла нашу культуру, беларускія школы, архітэктуру, аплявала гісторыю, трымае ўладу ў сваіх руках. Гавораць: "Які кіраўнік, такі і народ". Нельга з гэтым канчаткова згадзіцца. Няўжо наш народ такі безаблічны, заідэалагізаваны, неадукаваны?

Пакідала Мінск, а ў душы боль: калі раней і была надзея на адраджэнне Бацькаўшчыны, то яна ўжо канчаткова знікла. Бо гэта залежыць толькі ад нас саміх, ніхто і нішто не дапаможа, нават расійскі рубель.

**Леакадзія МІЛАШ.**

г.Вільня.

# АНСАМБЛЬ СЯРГЕЯ АЛЁНКІНА

У красавіку гэтага года па ініцыятыве культурна-асветніцкага таварыства беларусаў "Світанак" у Рызе праходзіла навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 40-годдзю з дня смерці вялікага сына Беларусі і Латвіі, педагога-асветніка, этнографа і фальклярыста Сяргея Пятровіча Сахарава. Гэта чалавек, які шмат гадоў працаваў настаўнікам у беларускіх школах Латвіі, сем апошніх год узначальваў Беларускую гімназію ў Дзвінску (цяперашняя назва Даўгаўпілс). На гэтай канферэнцыі я пазнаёміўся з дзіцячым фальклорным ансамблем пад кіраўніцтвам Сяргея Алёнкіна з Рыгі. На здзіўленне моцнымі і высокімі галасамі трынаццацігадовыя дзяўчынкі таленавіта выканалі многа беларускіх абрадавых песень, якія крынічна прабіліся да нас з глыбіні стагоддзяў.

Перад кожнай песняй кіраўнік ансамбля даваў цікавыя пазнавальныя тлумачэнні. Нельга не згадзіцца з ім, што абрадавыя песні — гэта магія і чарадзейства, якімі народ уздзейнічаў на абставіны і прыроду, адчуваючы сябе яе неад'емнай часткай, што гэтыя песні нясуць у сабе вялікі зарад энергіі, уздымаюць і ўмацоўваюць дух выканаўцаў і ўтвараюць вакол іх энергетычнае поле... Выконваліся калядныя (валачобныя), масленічныя (ачышчэння), вяснянкі, велікодныя, купальскія і жніўныя песні, песні-заклікання. Некаторыя з іх запісаны ад беларусаў Латгаліі, краю, памежнага з Беларуссю.

Дзіцячы фальклорны ансамбль С.Алёнкіна нядаўна прымалі ў Даўгаўпілсе Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь і культурна-асветніцкае таварыства беларусаў "Уздым". Благаслаёвены ў Барыса-Глебскім саборы айцом Віктарам (Кантузоравым) ансамбль выступіў у школах, у дзіцячай бальніцы горада.

А неўзабаве прыемнай нечаканасцю была сустрэча з ансамблем С.Алёнкіна ў Мінску на пасяджэнні Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і на навуковай канферэнцыі "Культура беларускага замежжа", дзе гэты маленькі калектыў выступаў у перапынках, а таксама прымаў удзел у канцэрце ў філармоніі, прысвечаным культуры беларускага замежжа. На гэтым канцэрце пашчасціла прачытаць некалькі сваіх вершаў і аўтару гэтых радкоў...

У рэпертуары ансамбля ёсць нямала і рускіх абрадавых песень. Аднак не дзіўна, што нам, беларусам, ансамбль С. Алёнкіна перш за ўсё дарагі як ахоўнік і выразнік беларускай народнай культуры. Сваёй творчасцю ён як бы гаворыць:

**Шануй свае карэнні**
**Які б ні быў высокі**
**І ў вусці нават помні**
**Адкуль твае вытокі.**

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА,**
**сябар Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".**

Латвія, г. Даўгаўпілс.

**81**

Мікалаеўскі ўрад вельмі намагаўся ліквідаваць шляхецкую апазіцыю. Царская амністыя датычылася толькі земляў былога Царства Польскага і не распаўсюджвалася на Літву-Беларусь. Паўстанцаў забіралі ў рэкруты. Царскі ўказ 1831 года зноў ажывіў "разбор" шляхты, каб колькасна зменшыць гэтае ваяўнічае саслоўе, прывучыць яго прадстаўнікоў да стваральнай працы, дзяржаўнай службы і ўсяго расійскага. Тыя, што не мелі дакументаў аб дваранскім паходжанні, гублялі шляхецкае званне і пачалі звацца аднадворцамі ў вёсках і грамадзянамі -- у гарадскіх паселішчах. Тым самым былыя дваране зводзіліся да становішча дзяржаўных сялян і мяшчан. Аднадворцы павінны былі на працягу года прадаць свае маёнткі з сялянамі. Як можна было з усім гэтым згадзіцца? Адразу ж на руках шляхты і ў архіўных кнігах з'явілася вялікая колькасць падробленых дакументаў. На Украіне, у мястэчку Бярдзічаў, патаемна працавала цэлая фабрыка фальшывых грамат. Прымаліся дадатковыя меры, але "разбор" зацягваўся.

Каб зменшыць незадаволенасць аднадворцаў і грамадзян, гэта значыць былых шляхціцаў, Заходні камітэт распрацаваў у 1832 годзе правілы для перасялення іх на Каўказ. Кожная сям'я перасяленцаў атрымлівала 50 дзесяцін зямлі, пяцігадовае вызваленне ад грашовых падаткаў, бязвыплатныя сродкі на будоўлю. Выдаваліся грошы і на пераезд. Пазней аднадворцам і грамадзянам дазволілі на тых жа ўмовах перасяляцца ў Саратаўскую, Арэнбургскую і Кацярынаслаўскую губерні. Усё было добра. Вось

**82**

толькі не дапамагаў урад адкрываць на новым месцы касцёлы. І рабілася гэта з мэтай русіфікацыі. Такая палітыка, безумоўна, утрымлівала набожных і адданых сваёй Айчыне колішніх шляхціцаў ад царскіх міласцяў. Праблема беззямельных аднадворцаў заставалася.

І ўсё ж саслоўная салідарнасць не дазваляла дваранскай Расіі зусім расцерушыць гэтую былую шляхту і перамяшаць з прыгоннымі сялянамі. Расійскае самаўладдзе спадзявалася на ўзаемападтрымку. Дзеці аднадворцаў атрымлівалі дзяржаўныя стыпендыі. У 1857 годзе выйшаў указ аб уладкаванні побыту шляхты, не зацверджанай у дваранстве. Збяднелыя атрымалі права на надзел казённай зямлі, грашовую дапамогу, пазыку і трохгадовае вызваленне ад падаткаў.

**АГРАРНАЯ КАЛАНІЗАЦЫЯ.** Адносіны ўлад са шляхтай, якая даказала сваё высокае паходжанне (не граматамі дык грашыма), заставаліся складанымі. Удзельнікі паўстання пакаяліся і атрымалі царскую амністыю. Але мясцоваму дваранству ўлады не давяралі. Яго грамадская дзейнасць знаходзілася пад пільным наглядам. Мікалаеўскі ўрад бярэцца стварыць на Літве-Беларусі надзейны клас рускіх землеўладальнікаў узамен ці хоць бы ў супрацьвагу зямельнай шляхце і яе культуры.

Расійскія ж паны думалі, зразумела, не аб распаўсюджванні тут рускай культуры, а хутчэй за ўсё аб лёгкай нажыве. Гэта былі чужынцы, якія нечакана атрымалі за службу канфіскаваныя маёнткі паўстанцаў ці набылі зямлю па нізкай цане. Такі памешчык не пры-

**83**

жываўся на новым месцы, наспех эксплуатаваў сваю ўласнасць, высякаў векавыя лясы, закладваў і перазакладваў маёнткі і ўрэшце перадаваў іх у арэнду мясцовым католікам ці іудзеям, прадаваў або проста кідаў крэдыторам за пазыкі. Землі даставаліся звычайна рускім ураднікам. А яны не разлучаліся са службай у сталіцы або ў мясцовым губернскім цэнтры, не мелі ні сродкаў, ні ведаў, ні жадання, каб паспяхова канкурыраваць з тутэйшымі панамі.

Льготамі прываблівaліся да перасялення на Літву-Беларусь і рускія казённыя сяляне. Але і гэтая мера не дала чаканых вынікаў. Аграрнай каланізацыі падвяргаўся шчыльна заселены край з высокай культурай земляробства, з вялікай любоўю і шляхецкіх, і сялянскіх хлебаробаў да сваёй працы і Айчыны. Рускія ж каланізатары не мелі пераваг, акрамя дзяржаўнай падтрымкі, ды і тая была недастатковай і непаслядоўнай.

## 7.3. Замена польскіх школ рускімі

**ВЫШЭЙШАЯ АДУКАЦЫЯ.** Актыўны ўдзел студэнцкай і вучнёўскай моладзі ў паўстанні падштурхнуў Мікалая І да перагляду ўсёй сістэмы адукацыі на Літве-Беларусі. Найперш ён закрыў Віленскі універсітэт, цэнтр культуры беларускага, жамойцкага і польскага народаў. Праўда, факультэты медыцынскі і багаслоўскі былі ператвораны ў Медыка-хірургічную акадэмію і духоўнае вучылішча. Пры акадэміі

**84**

існаваў вельмі рэдкі для тых часоў ветэрынарны аддзел. Аднак і гэта вышэйшая навучальная ўстанова ў 1842 годзе была закрыта за ўдзел яе студэнтаў у польскім вызваленчым руху. Тады ж і духоўнае вучылішча для католікаў перавялі ў Пецярбург. Міністр народнай асветы С. Увараў спачатку меркаваў адкрыць замест Віленскага універсітэта Беларускі ліцэй у Оршы, ды, відаць, пабаяўся, што ён таксама стане "гняздом польскага вальнадумства". У рэшце рэшт усе універсітэцкія каштоўнасці (бібліятэка, кабінеты, музей) былі перавезены з Вільні ў Кіеў, дзе з 1834 года дзейнічаў універсітэт Святога Уладзіміра.

Так беларусы страцілі мажлівасць атрымоўваць універсітэцкую адукацыю на сваёй зямлі і не мелі яе ўжо на працягу ўсяго царскага перыяду сваёй гісторыі. У мэтах русіфікацыі мясцовай моладзі ўрад выдзеліў у 1833 годзе 50 казённых стыпендый у Пецярбургскім і Маскоўскім універсітэтах для добранадзейных гадаванцаў літоўска-беларускіх гімназій. Пазней мясцовым абітурыентам адпускалася па 5 стыпендый у кожным з чатырох тымчасных расійскіх універсітэтаў.

Нарэшце ў 1848 годзе і на Літве-Беларусі з'явілася руская вышэйшая навучальная ўстанова -- Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Ён месціўся ў Аршанскім павеце і быў адзіным у сваім родзе на ўсю Расію. Інстытут стаў найважнейшым цэнтрам агранамічнай навукі ў імперыі. Яго студэнты праходзілі практыку ў маёнтках мясцовых паноў. Гаспадары засвойвалі метады навуковай аграноміі, а практыканты

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

**85**

-- шляхецкі дух вольнасці, з якім безвынікова змагаўся царызм. У студэнцкім асяроддзі спелі рэвалюцыйныя нацыянальна-вызваленчыя настроі. І яны ўжо сілкаваліся не толькі з Варшавы, але і з Пецярбурга і Кіева. Горы-Горацкі інстытут пераймаў эстафету вальнадумства ў былога Віленскага універсітэта.

**АДУКАЦЫЯ СЯРЭДНЯЯ І НІЖЭЙШАЯ.** Пасля закрыцця універсітэта гімназіі і іншыя навучальныя ўстановы апынуліся ў руках царскіх ураднікаў вучэбнай акругі, якія і ўзяліся замяняць польскія школы на рускія. У выніку іх працы колькасць гімназій і павятовых вучылішчаў зменшылася на Літве-Беларусі прыкладна напалову і толькі ў 1844 годзе дасягнула ўзроўню 1831 года. Польскія школы пры касцёлах і кляштарах увогуле закрываліся, а для адкрыцця рускіх школ пры цэрквах не заўсёды хапала сродкаў. Ва ўсіх навучальных установах польская мова поўнасцю забаранялася і ў якасці выкладання, і ў якасці вывучэння.

Але мясцовыя настаўнікі не заўсёды хацелі і маглі пераходзіць на рускамоўнае выкладанне. Тады іх замянялі выклікaнымі з цэнтральнай Расіі. Рускія настаўнікі атрымлівалі падарожныя грошы, а на месцы -- павышаныя аклады. Нястача гнала на Літву-Беларусь пераважна разначынцаў. У 1832 годзе спрабаваў уладкавацца тут і В.Бялінскі. Да прашэння на імя папячыцеля Беларускай вучэбнай акругі прыкладваліся "Развážанні", дзе вядомы пазней рускі рэвалюцыйны дэмакрат раіў, як лепей навучаць рускай мове вучняў, якія не маглі размаўляць на ёй. Аднак ад русіфікатарскіх паслуг аўтара ад-

**86**

мовіліся. Для такой справы больш падыходзілі рускія папы, якіх з задавальненнем тут прымалі і прыцягвалі да працы ў пачатковых школах, бо мясцовыя свяшчэннікі не заўсёды здавальняюча гаварылі па-руску. Увогуле ж, тагачасная імперыя не валодала дастатковай колькасцю інтэлігенцыі (а тым больш добранадзейнай), каб паспяхова праводзіць з яе дапамогай русіфікацыю захопленых зямель. У 1839 годзе выкліканыя з цэнтральных губерняў Расіі настаўнікі складалі на Літве-Беларусі толькі 17 працэнтаў.

Рускія школы спачатку ўступалі былым польскім якасцю адукацыі. Галоўная ўвага ў іх звярталася на авалоданне рускай моваю. Праграмы навучання былі такімі, што з ніжэйшых тыпаў школы без дадатковай падрыхтоўкі нельга было трапіць у гімназію. Гэта рабілася наўмысна, каб прыпыніць далейшую адукацыю мяшчан і сялян. Навучальныя ўстановы прызначаліся пераважна для мясцовай шляхецкай моладзі, для выхавання яе ў духу пакорлівасці рускай дзяржаве. С.Увараў лічыў вельмі спрыяльнымі для таго навучальныя ўстановы закрытага тыпу (высакародныя пансіёны, дваранскія інстытуты). І яны пашыраліся на Літве-Беларусі. У 1837 годзе ў Беластоку адкрываецца інстытут шляхетных дзяўчат. Народных жа школ было вельмі і вельмі мала. Прыгонніцкая пагарда да беларускіх сялян і жабрацкая казна асуджалі іх на непісьменнасць, але выратоўвалі ад русіфікацыі гэтак жа, як раней ад паланізацыі.

Праграма выкладання рускіх школ не здавальняла мясцовую інтэлігенцыю. Цікавую ідэю па-

**87**

даў ураджэнец Пружанскага павета, наглядчык гродзенскіх павятовых вучылішчаў І.Кулакоўскі. У лісце да міністра народнай асветы ён прасіў увесці ў навучальных установах Літвы-Беларусі выкладанне гісторыі заходніх губерняў. Але гэта не дало ніякіх вынікаў. І ўвогуле, меры Уварава не прымусілі мясцовую спаланізаваную шляхту прыняць культурныя каштоўнасці Расіі. Новы рускі цар Аляксандр II (1855--1881) палічыў за лепшае ўзнавіць выкладанне польскай мовы ў навучальных установах Літоўска-Беларускага краю.

## 7.4. Антыцарскі рух пасля 1831 года

**ПАЛІТЫЧНАЯ СЛЕПАТА РАСІЙСКАГА ЎРАДА.** У царскага ўрада быў толькі адзін шлях да перамогі над паланізатарамі ў барацьбе за Літву-Беларусь. Гэта прызнанне яе нацыянальнай самабытнасці. Рускі цар меў шанц абаперціся на літоўска-беларускі элемент і знайсці ў ім падтрымку. Толькі ва ўрадавых колах не звярталі ўвагі на літоўска-беларускіх сялян і літоўска-беларускую культуру. Насельніцтва краю лічылася польскім ці рускім, толькі спаланізаваным. Такі погляд не без уплыву запісак М.Мураўёва падзяляў нават Заходні камітэт, які спецыяльна займаўся справамі заходніх губерняў Расіі. А таму ўрад выбраў шлях гвалтоўнай русіфікацыі, які толькі сілкаваў шляхецкую апазіцыю. Мясцовыя паны і асабліва шляхецкая інтэлігенцыя зноў шукалі паратунку ў барацьбе за ўзноўленую Рэч Паспалітую. Усё

**88**

ўрадавае звязвалася з рэакцыйным, усё польскае -- з прыгнечаным і ліберальным. У выніку чаго інтарэс да польскай культуры толькі ўзрос.

**УПЛЫЎ ПОЛЬСКАГА РЭВАЛЮЦЫЙНАГА РУХУ.** Дэмакратычная эміграцыя за мяжой не адмаўлялася ад планаў узброенай барацьбы за незалежнасць. Сябра Дэмакратычнага таварыства ў Парыжы Заліўскі заклікаў ісці ў "рускую" Польшчу і ўзнавіць там партызанскую вайну, а самім рыхтаваць армію ўварвання. Пры гэтым улічвалася незадаволенасць рускага народа сваім царом. Добраахвотнікаў лавілі і вярталі ў Францыю, а ўзброеных вынішчалі. Але наезды не прыпыняліся. У Гродзенскую губерню прабраўся тамашні памешчык Міхал Валовіч. Яго доўга хавалі па лясах і хутарах сяляне, ды не ўхавалі. Сваё жыццё бунтарскі пан скончыў у 1833 годзе на шыбеніцы ў Гародні. Але на змену адным эмісарам прыходзілі новыя.

Польскі лідэр Шымон Канарскі марыў перабудаваць свет рэвалюцыйным шляхам. Па даручэнню Дэмакратычнага таварыства ён аб'ехаў усю Расійскую імперыю і выбраў месцам сваёй дзейнасці для распальвання паўстання Літву-Беларусь і Жамойць. І не толькі таму, што ў Вільні жыла яго будучая жонка Эмілія Міхальска. Становішча ў былым Царстве Польскім было неспрыяльным. Там панавала дыктатура Паскевіча. З 1835 года пад рознымі імёнамі і вопраткамі Канарскі агітаваў па ўсяму літоўска-беларуска-жамойцкаму краю і на Украіне. Вясной 1838 года яго арыштавалі па дарозе з Вільні ў Мінск. Надта ўжо хаваў рэвалюцыянер свой твар у каўнер шыняля.

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

Пазней адкрыла вочы -- перада мной былі ўрачы. Я зразумела, што жывая. Але як толькі я заплюшчвала вочы, бачыла нешта падобнае да тэлевізійнай стужкі, на якой кадр за кадрам з'яўляліся твары людзей. Я зноў думала, што гэта смерць. З усёй сілай я трымала вочы адкрытымі. І тады я ўбачыла аблокі. Здавалася, што нябёсы спусціліся ў бальнічную палату. Раптам (можа, гэта быў водбліск ад промня сонца за акном) я заўважыла, што ад аблокаў ідзе мяккае прыглушанае святло.

Там жа, у рэанімацыі, каб адцягнуць увагу ад сваёй хваробы, Тамара Багданава пачала плесці тасёмачку з нітак, што прынёс муж. Перад вачамі тады яшчэ стаяў туман, і яна нават дакладна не бачыла, што рабіла. Тым больш не ведала, як трэба рабіць. Пазней мастачка вымі здаваліся. Бачылася ўсё гэта здалёк, цераз нейкую смугу. І не пакідала адчуванне, што да канца ў сваіх працах нешта не магла перадаць так, як бачыла.

-- Але аднойчы я выпадкова зірнула ў фортку, на якой была сетка, і ўбачыла пейзаж. Я не магла бачыць нешта канкрэтнае, гэта была абстракцыя, магчыма, падзьмуў ветрык. Але для мяне той пейзаж стаў вельмі дарагім. Я зразумела, што недарэмна пакутавала з-за адчування няскончанасці сваіх прац ( я іх не нацягвала на падрамнік, не аздабляла рамкай, а складвала ў шафу). Я адкрыла для сябе магчымасці тонкай сеткі, якая цяпер амаль на кожнай маёй карціне. З таго дня ўсё ў маёй працы пайшло па-новаму. Я знайшла элемент для сваіх работ, якога не хапала, і знайшла шчасце. Працавала з такім задазальненнем, што не заўважала часу. Усё для мяне спыніла сваё існаванне, акрамя маіх карцін. Я прыходзіла з тэатра апоўначы, працавала да раніцы і не адчувала пры гэтым стомлестака. Карціны тамары Багданавай робяць свет больш добрым і чыстым, дораць людзям надзею на шчасце, на прыгажосць. Ля прац Тамары Багданавай хочацца знаходзіцца бясконца. Здаецца, любога яны могуць супакоіць і прымірыць з сабой і з светам.





## Тамара БАГДАНАВА:

# "Я ПРАВАДНІК БОЖАЙ ВОЛІ"

дзівілася, што тасьма атрымалася даволі прыгожай. У рэанімацыі Тамара Уладзіміраўна зразумела, што адзінае выйсце для яе -- праца над сабой. Яна пераконвала сябе, што павінна знайсці сілы, каб выздаравець. Яна прасіла Бога дапамагчы ёй дзеля дзяцей.

-- Я вярнулася з таго свету, бо мне дапамог Бог. Цяпер я разумею, што чалавек можа зарабіць хваробу думкамі і імі ж вылечыцца. Сваімі думкамі мы робім сабе бяду, узмацняем хваробу. А між тым, калі Бог захоча забраць вас сёння, што вы зможаце зрабіць? Калі ён пажадае прадоўжыць вашае жыццё яшчэ на 10, 30 год -- вы можаце толькі падпарадкавацца яму ці накласці на сябе рукі. Але ж апошняе будзе не па-Божаму...

Сваё жаданне вышываць Тамара Багданава параўноўвае з успышкай святла ў цемры. Калі да клінічнай смерці яна не займалася вышываннем наогул, то пасля хваробы гэты занятак стаў для жанчыны любімым, сэнсам яе існавання. Яна пачала з пейзажаў, нацюрмортаў. Не вышываць проста не магла. Ёй варта было толькі на імгненне заплюшчыць вочы, каб убачыць кветачкі, якія нібы выраслі імгненна, такімі жынасці. За 10 гадоў зрабіла так шмат, што цяпер гэта мне здаецца немагчымым. Ёсць у мяне і тканыя працы, і габелены. Я рабіла свае "Сланечнікі", дакладна не ўяўляючы ткацкай тэхнікі. Калі мне пазней растлумачылі, што павінен быць папярэдні малюнак, які габеленшчык падкладае пад палатно, мне не паверылася, што я магла ткаць без малюнка. "Гэта не я, гэта не мае працы", -- думалася мне. Я магу толькі падзякаваць Богу за яго падказкі.

Сетка на карцінах Тамары Багданавай мае вельмі важнае значэнне. Яна смела стварае на іх эфект двух планаў. І надае ім мяккі адбітак тэатральнасці. Глыбіня карцін Тамары Уладзіміраўны заварожвае і прымушае ўглядацца і ўглядацца ў вочы святых на карцінах, якія не могуць не крануць. Сярод твораў Тамары Багданавай вылучаюцца дзве іконы з вывявай Ісуса Хрыста. Зразумела, майстар нездарма зрабіла дзве аднолькавыя працы. Напэўна, у гэтым ёсць сэнс, бо проста так у мастацтве не з'яўляецца нічога. Тамара Багданава тлумачыць:

-- Я -- праваднік Божай волі. Я адчуваю гэта пастаянна. Мае творы прыходзяць да мяне ва ўяўленні. Я ўбачыла лік Хрыста і зразумела, што павінна выканаць яго партрэт. Я сплю мала наогул -- 1--2 гадзіны ў суткі. Мне хапае гэтага. Я не стамляюся, калі працую, наадварот -- адпачываю. Я не адчуваю цяжару, калі працую. Калі ж здараюцца дні без вышывання -- мне чагосьці нестае. Відаць, я атрымліваю энергію і павінна яе аддаваць. Празмернасць энергіі -- гэта вельмі дрэнна. Мне варта толькі сесці працаваць, каб адчуць пададсць і палёгку. Пазней я ўбачыла яшчэ адзін лік. І пачала вышываць. Калі я працавала над карцінай "Ісус Хрыстос", я не спала амаль зусім. Я вельмі спяшалася, хацела зрабіць сваю працу да Вялікадня, я адчувала, што так павінна быць. І калі над Беларуссю прагучалі словы:_ "Хрыстос уваскрэс", Хрыстос уваскрэс і на маёй другой карціне. Цяпер жа я ўбачыла лік трэцяга Хрыста. Гэта не мая воля. Гэта мне дадзена небам. І я раблю трэцюю карціну. Дзве карціны будуць, як і цяпер, вісець на адной сцяне пакоя, трэцяя -- насупраць. Я ведаю, што яны здольныя забіраць ад чалавека адмоўную энергію, але гэтая энергія застаецца ў кватэры. Калі ж з'явіцца трэцяя карціна, то адмоўная энергія будзе знішчацца, згараць.

Тамары Уладзіміраўне нялёгка жыць у нашым грамадстве. Яна не можа прызвычаіцца прадаваць свае працы, хоць даўно ўпэўнілася, што без гэтага немагчыма пражыць. Аднак шкада, што творы, якія прададуцца, пазней будзе немагчыма паўтарыць. Тамара Багданава стараецца не прадаваць карціны з лікамі святых. Усе тры іконы з Ісусам мастачка хоча пакінуць у сябе дома. Яна кажа, што не прадала б іх, нават калі б ёй прапанавалі шмат грошай, якія маглі забяспечыць бязбеднае існаванне ёй, яе дзецям і ўнукам. Для яе "Ісус" -- больш чым карціна. Гэта матэрыяльнае ўвасабленне яе прызначэння, яе ролі як чалавека і ма-



Аднак не ўсе людзі разумеюць, чаму ёй трэба не спаць начамі і рабіць трэцюю карціну, якая будзе амаль такая, як і дзве папярэднія, нашто так спяшацца. Не ўсе разумеюць яе адарванасць ад знешняга свету. Сапраўды, яна толькі зрэдку выходзіць з кватэры, не глядзіць тэлевізар і не чытае газет. У яе баліць душа за нашу зямлю, але яна ведае, што дапамагчы людзям можа толькі сваёй працай. Так яна стварыла вобраз Жыровіцкай Божай Маці, беларускай Святой Ефрасінні Полацкай. З гэтай працай звязана цікавае здарэнне.

-- Калі я рабіла эскіз, мая рука ішла за алоўкам. Не памятаю, каб раней бачыла партрэт Ефрасінні Полацкай. Таму вельмі здзівілася, калі параўнала свой эскіз з рэпрадукцыяй фрэскі ў кнізе: гэта быў амаль адзін твар.

Кожны дзень Тамара Уладзіміраўна дзякуе Богу за свой дар і просіць прабачэння за тое, што, можа, робіць нешта не так, як трэба. Яна сумняваецца, што жыве так, як хоча Бог. Апошнім часам мастачка думае, што яна павінна жыць у манастыры, а не сярод розных -- злых і добрых -- людзей. Аднак яе стрымліваюць дочкі, муж. Яна не можа пераступіць цераз іх, як і не можа поўнасцю прысвяціць сябе сям'і, бо яе карціны -- гэта не звычайная праца, гэта цэлы свет, які, як яна лічыць, вышэйшы і мацнейшы за яе.

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы Тамары БАГДАНАВАЙ. "Ваза з кветкамі"; "Ісус Хрыстос" і "Жыровіцкая Маці Божая".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



**Рэспубліканскі тэатр-лабараторыя беларускай драматургіі "Вольная сцэна" парадаваў сваіх паклоннікаў прэм'ерай п'есы Раісы Баравіковай "Барбара Радзівіл". Спектакль вяртае нас у XVI стагоддзе, у часы Вялікага Княства Літоўскага, і апавядае аб гісторыі трагічнага кахання прадстаўніцы знакамітага і магутнага роду нясвіжскіх князёў Радзівілаў -- Барбары і польскага караля Жыгімонта Аўгуста II.**

**Ролі ў спектаклі выконваюць сёлетнія выпускнікі акцёрскага аддзялення Беларускай акадэміі мастацтваў.**

**НА ЗДЫМКУ: галоўныя героі спектакля -- Барбара Радзівіл -- Таццяна ЖАХОЎСКАЯ і Жыгімонт Аўгуст II -- Ігар СІГАЎ.**

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ.**

## ТАПАНІМІЧНЫЯ ЭЦЮДЫ

# ДЗЕ КАРАНІ НАЗВЫ ТВАЙГО ПАСЕЛІШЧА?

**Многія назвы паселішчаў з цягам часу істотна трансфармуюцца: мяняюць фанетычнае аблічча, словаўтваральную структуру, страчваюць закладзены ў іх сэнс. І тады зусім няпроста адказаць на пытанне, адкуль пайшла назва горада, вёскі, ракі, бо факт гэты згубіўся ў сівой даўніне.**

**Нярэдка лёс семантычна "цёмных" паселішчных найменняў цесна пераплятаецца з назвамі рэк, азёр, вадаёмаў. Але гэта можна даказаць толькі пры спецыяльным даследаванні, падсумаваўшы моўныя, тапанімічныя, гістарычныя і геаграфічныя сведчанні. Аўтар прапануе некалькі тапанімічных эцюдаў, у якіх зроблена спроба растлумачыць адгідранімічнае паходжанне назваў асобных беларускіх гарадоў.**

## МІНСК

Мінск (летапісны Менескъ, Менскъ, Меньскъ) -- адзін са старажытнейшых гарадоў Беларусі. Узнік на аснове старадаўняга драўлянага замка ў месцы зліцця рэк Няміга і Свіслач (раён сучаснай плошчы 8 Сакавіка). Упершыню згадваецца ў "Аповесці мінулых гадоў" пад 1067 годам. У ёй апісваецца, як 3 сакавіка трое братоў Яраславічаў (Ізяслаў, Святаслаў, Усевалад) узялі Меньскъ і перабілі ўсіх мужчын, а жанчын і дзяцей захапілі з сабой як ваенную здабычу і пайшлі да Нямігі. Ад гэтай даты і вядзецца адлік гадоў нашаму сталічнаму гораду. На самай жа справе ён намнога старэйшы, бо ў пісьмовыя крыніцы паселішча трапляла не ў дзень свайго нараджэння, а ў сувязі з якой-небудзь важнай гістарычнай падзеяй.

Адносна паходжання назвы існуе некалькі версій. Паданне гаворыць, што горад заснаваў асілак-вядзьмар Менеск, ці Мянеск. Спачатку ён пабудаваў на рацэ Свіслач (у месцы ўпадзення ў яе рэчкі Пярэспа) вадзяны млын на "сем колаў", а потым пачаў сяліць вакол яго дружыннікаў. Так паступова і вырас цэлы горад, які назвалі па імені яго заснавальніка. Шырока бытуе думка, што ў аснове назвы горада ляжыць слова мена, бо ў старажытнасці ён як быццам бы знаходзіўся на месцы ажыўленага тавараабмену. Паходжанне назвы Менск звязваецца таксама з рачной назвай Мень ці Мена, з латышскім словам main "балота" (Э. Пакорны).

Але ж няма якіх-небудзь звестак пра існаванне асілка Менеска, ці Мянеска і пра млын, які ён будаваў. А месцы гандлю ў перыяд, калі Менск набывае вядомасць, называліся не менамі, а таргамі і таржкамі. Апрача таго, не пацвярджаецца і той факт, што Менск у эпоху свайго зараджэння быў месцам ажыўленага гандлю. Няма і прамых доказаў адносна сувязі назвы Менск з гідронімамі Мень (Мена). Тым не менш існуе шэраг фактаў, якія гавораць на карысць такога паходжання.

**(Працяг на 8-й стар.).**

# "ТЫ, НАРОДЗЕ, ВЯЛІКІ І ЧЭСНЫ..."

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

О. Авейдэ пісаў, напрыклад: "Я не мог себе представить, чтобы в человеке, страдавшем в нерчинских рудниках за народное дело, могло вмещаться самолюбие, да при том прежалкое самолюбие, соединенное с трусостью, с недостатком твердости духа и с недостатком любви для цели, которой он, как казалось, посвятил жизнь свою. Словом, Гиллер был честолюбивый трус, самонадеянный журнальный фанфарон, прикрывавшийся достоинством опытного, пламенного **сибиряка**". А вось што гаварыў Б. Шварцэ пра дакументальныя публікацыі Гілера, звязаныя з паўстаннем: "Будучы праз свае ўмеркаваныя і містычныя погляды ворагам якраз тых, хто найбольш актыўна дзейнічаў у арганізацыі і паўстанні, ён можа занадта часта паддаваўся сваім сімпатыям і антыпатыям. З другога боку, яму здавалася, што абарона (паўстання) павінна быць самай безагляднай, настолькі безапеляцыйнай, наколькі безапеляцыйнымі былі абвінавачанні, таму ён занадта паблажліва ацэньваў нашу дзейнасць, з залішнім энтузіязмам расхвальваў усё, нават тое, пра што дакладна ведаў, што не было дадатным. Яшчэ здаўна, задоўга да паўстання, гэтаксама ж ідэалізаваў усю ранейшую Польшчу, скрываў памылкі, нават злачынствы, вядомыя ўсяму свету, даўно прызнаныя самімі нашымі гісторыкамі, і таму нядзіўна, што нашы ворагі і нават сябры адмаўляюць за сведчаннямі Гілера вагу нават там, дзе яму безумоўна трэба верыць".

Дзеяч дэмакратычнай эміграцыі, наш зямляк Ю. Таkаржэвіч пісаў у 1869 годзе пра галоўную працу Гілера "Гісторыя паўстання польскага народа": "Засыпле яе, несумненна, першая ж грамадская бура, якая збярэ разам пакутніцкія косці Каліноўскіх, Юр'евічаў, Сангіных, каб скласці з іх штосьці больш годнае за канцылярска-мяшчанскі манумент тым, хто гіне з верай, калі не з веданнем, **што ў Польшчы павінна быць інакш**". Цікава, што тут у якасці самых годных прадстаўнікоў перадавых тэндэнцый паўстання ўспамінаюцца якраз наш Каліноўскі, яго паплечнік С. Сангін і малады кіраўнік паўстання на Украіне ("дыктатар на Русі") А. Юр'евіч.

Ставячыся крытычна і асцярожна да асобы і публікацый Гілера, разам з тым нельга не прызнаць значэння яго дзейнасці па зборы матэрыялаў паўстання. Як да рэдактара "Ойчызны", аднаго з першых гісторыкаў паўстання, такія матэрыялы (мемуары, дакументы і г.д.) сцякаліся да яго адусюль. Разам з іншымі неацэннымі памяткамі нядаўніх гераічных і трагічных падзей у рукі Гілера трапілі і апошнія творы Кастуся Каліноўскага.

Дык вось у 1867--1871 гадах Гілер выдаў у Парыжы чатыры тамы сваёй "Гісторыі паўстання..." і ў дадатку да першага тома (1867), сярод іншых матэрыялаў пра паўстанне, надрукаваў "Пісьмы..." Каліноўскага. У першапублікацыі дакумент мае назву па-польску (відаць, гэта загаловак Гілера): "Do ludu bialoruskiego. Pismo z pod szubienicy Konstantego Kalinowskiego". У тэксце кнігі дадзена кароткая характарыстыка Каліноўскага (вельмі ўзнёслая, але, на жаль, даволі агульная) і сказана, што гэты дакумент прысланы Каліноўскім "на нашы рукі" для апублікавання. (Вядома ж, сам Каліноўскі прыслаць Гілеру з турмы не мог -- гэта зрабілі яго сябры. Тут Гілер, мабыць, трохі лішне пахваліўся).

У далейшым у беларускім друку дакумент атрымаў вядомасць пад назвай "Пісьмо з-пад шыбеніцы" або ў множным ліку -- "Пісьмы з-пад шыбеніцы".

Апошні варыянт загалоўка больш дакладны, паколькі твор складаецца з трох самастойных частак, якія, мяркуючы па ўсім, пісаліся паасобку і гэтаксама ж паасобку дастаўляліся з-за кратаў на волю. Аўтограф трэцяй часткі выяўлены У. Казберуком у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве якраз сярод матэрыялаў А. Гілера ("Літ. і мастацтва", 1980, 29 лют.).

Развітальны твор Каліноўскага нярэдка называюць таксама "Лістамі з-пад шыбеніцы", не маем у прынцыпе нічога супраць такой назвы, але загаловак "Пісьмы..." лепш стасуецца да саманазвы дакумента ў самім яго тэксце ("...а пісьмо аддрукуйце..."; "...бо москаль не павінен ведаць, пераняўшы на прыпадак пісьмо гэта") і назвы першапублікацыі Гілера: "**Pismo** z pod szubienicy..."

Першая частка (назавём яе ўмоўна Пісьмом-І) -- самая вялікая па памерах -- пачынаецца вельмі простай і ў той жа час вельмі ўдалай з пункту погляду публіцыстычнага майстэрства фразай, якая адразу ўводзіць нас нібы ў сярэдзіну даверлівай размовы: "І да нашага кутка даляцела ваша Газэтка, і мы яе з увагай прачыталі; вельмі яна ўсім спадабалася, бо праўда напісана. Прыймеце для таго нашу падзяку, а пісьмо аддрукуйце, каб знаў свет Божы, як мужыкі-беларусы глядзяць на маскалёў і паўстанне польскае, чаго яны хочуць і чаго па сваей сіле дабівацися будуць".

Даследчыкі слушна вырашылі, што тут маецца на ўвазе газета "Глос з Літвы", якой надаваў важнае значэнне Каліноўскі і якая павінна была раскрыць становішча Беларусі і Літвы перад Еўропай. Першы нумар газеты выйшаў 20 студзеня (1 лютага) 1864 года, калі Каліноўскі знаходзіўся яшчэ на свабодзе. Характэрна, што ў гэтай частцы "Пісьмаў..." нідзе няма ўказання, што твор пісаўся ў турме, у чаканні смяротнай кары. Тут няма непасрэдных матываў развітання. Так што не выключаецца, што гэтая частка напісана Каліноўскім яшчэ да арышту, калі ён з захапленнем займаўся рэалізацыяй свайго выдавецкага плана -- арганізацыяй газеты "Глос з Літвы". З другога боку, фраза "нарэшце тры леты таму выйшаў указ царскі" (маецца на ўвазе маніфест ад 19 лютага 1861 года, абнародаваны на пачатку сакавіка), здаецца, дазваляе аднесці тэкст да лютага--сакавіка 1863 года, калі Каліноўскі быў ужо ў турме. Аднак такую фразу пры больш адвольным падыходзе да датавання, вядома ж, можна было напісаць і ў студзені 1863 года, яшчэ да арышту.

Такім чынам, адрасат першага тэксту -- рэдакцыя газеты "Глос з Літвы", а праз яе -- "ронд польскі" і еўрапейская грамадскасць. Выходзіць, Каліноўскі дапускаў магчымасць публікацыі ў газеце, што выходзіла на Захадзе, беларускіх тэкстаў (дарэчы, яшчэ ў студзені 1863 года ў польскай лонданскай газеце "Глос вольны" быў перадрукаваны на мове арыгінала шосты нумар "Мужыцкай праўды"), дапускаў магчымасць звяртацца на роднай беларускай мове да еўрапейскай грамадскасці і "ронду польскага".

Найперш у дакуменце закранаецца вельмі важнае палітычнае пытанне пра ўзаемаадносіны беларускага і рускага народаў. Рускі народ не здолеў, як марылася, досыць шырока ўзняцца ў 1863 годзе на барацьбу за свабоду разам з народамі польскім, беларускім, літоўскім. Больш за тое -- у час паўстання адбылася пэўная кансалідацыя рускага грамадства пад сцягам самадзяржаўя і шавінізму. Славянафільская і правая прэса выступіла рэзка супраць паўстання. І.С. Аксакаў назваў "Мужыцкую праўду" "...паскудным польскім творам, поўным паклёпаў на Расію". І ўсё гэта рабілася пад лозунгам абароны "братняга беларускага племені" ад паланізацыі. Край напоўніўся царскай ваеншчынай, служылым людам нялепшага гатунку і шукальнікамі лёгкай нажывы. Паводле ўспамінаў землявольца Л. Панцялеева (ён быў зняволены ў тых жа "Даменіканах", што і Каліноўскі, але крыху пазней), у краі была "полная анархия благодаря ничем не ограниченному произволу и чиновничеству, набранному из отбросов по всей империи".

Нават афіцыйныя службовыя асобы прызнавалі, "что чиновники, присылаемые из России для замены чиновников польского происхождения, вовсе не отвечают цели своего назначения, многие из них оказываются корыстными и нетрезвого поведения". Упраўляючы Ковенскай палатай дзяржаўных маёмасцей, куды паступалі канфіскаваныя і секвестраваныя ў 1863 годзе маёнткі ўдзельнікаў паўстання, пазней успамінаў: "Большею частью секвестр начинался грабежом имения, а затем уже оставшемуся имуществу составлялась опись и передавалась в ведение палаты". Вось адкуль з'явіўся ў "Пісьмах..." Каліноўскага вобраз ненажэрнай саранчы.

Пад уплывам усіх гэтых акалічнасцей, пад уражаннем пачварнай дзейнасці Мураўёва-вешальніка і яго памагатых Каліноўскі прыходзіць да песімістычных вывадаў аб рускім народзе і яго брацтве з беларусамі. У Пісьме-І слушна гаварылася аб пагаршэнні становішча беларускіх сялян за апошнія дзесяцігоддзі (хаця сапраўдная прычына заключалася не столькі ў далучэнні да Расіі, колькі ў агульным вострым крызісе прыгонніцтва, які прыпадае якраз на гэты час), аб даўніх традыцыях вызваленчага руху на беларускіх і польскіх землях, перапыненых царскім рэжымам, аб пэўных прыярытэтах Беларусі і Польшчы ў гэтых адносінах у параўнанні з суседскімі народамі: "Ронд польскі ужэ таму будзе 70 лет, выперажаючы многа суседскіх народаў, пачаў ужэ талкаваці а свабодзе мужыцкай і роўнасці братняй мужыка з шляхціцам, а енарал Касцюшка, што то, кажуць, каля Слоніма радзіўся і а каторым народ наш спявае, што ён вельмі быў добрым і маскаля крэпка біў, выказаўся ён за вольнасць нашу, но маскаль то перашкодзіў і завёў свае ронды". Але ёсць і памылковыя палажэнні аб адсутнасці агульнага ў паходжанні беларусаў і рускіх, аб няздольнасці нібыта рускага народа да барацьбы за свабоду. Тут Каліноўскі робіць крок назад у параўнанні з думкамі, выказанымі раней у "Мужыцкай праўдзе" і польскамоўнай газеце Літоўскага правінцыяльнага камітэта "Хоронгев свободы", магчыма, ён знаходзіцца тут пад пэўным уплывам нялепшай часткі польскіх тагачасных публіцыстаў (у прыватнасці, вядомай антынавуковай тэорыі Ф. Духінскага аб неславянскім нібыта паходжанні "маскалёў"-велікарусаў).

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**(Заканчэнне будзе).**



Прайшло афіцыйнае святкаванне 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкай акупацыі. Аціх звон медалёў на палкоўніцкіх ды генеральскіх мундзірах. З'едзена салдацкая каша, якой частавалі ўсіх ахвочых яе пакаштаваць. Атрымалі разавыя грашовыя дапамогі і стандартныя пісьмы-трохкутнікі з віншаваннямі ад прэм'ера Кебіча ветэраны, што ледзь дыхаюць на жабрацкую пенсію.

Застаўся прыкры прысмак палітычных шашняў і звадаў, што адбываліся на фоне ўрачыстых слоў пра вызваленне. Засталася трывога падзелу вызваліцеляў на "нашых" і "вашых". Засталося гідкае пачуццё самапрыніжэння, бо ўсё праходзіла нібы дзесяць год назад: без сімвалаў нашай суверэннай годнасці і незалежнасці, пад старымі савецкімі лозунгамі ды сцягамі.

Куды ж мы ідзем! Да чаго крочым!..

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**



**НА ЗДЫМКУ:** Мінск, 3 ліпеня 1994 г. Назад -- у "Союз нерушимый"; даверлівы шэпт без пяці хвілін прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі з прэм'ерам Расіі В.Чарнамырдзіным; боль і памяць.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



# ДЗЕ КАРАНІ НАЗВЫ ТВАЙГО ПАСЕЛІШЧА?

(Працяг. Пачатак на 7-й стар.).

Перш за ўсё гэта наяўнасць назваў рэк з асновай "мен" на ўсходнеславянскай і заходнеславянскай тэрыторыях. За 16 кіламетраў ад Мінска працякае ручай Менка, які ўпадае ў Пціч. У Чарнігаўскай вобласці ёсць пасёлак Мена (размешчаны на рацэ Мена, правы прыток Дзясны), а на Ушаччыне -- возера Мена. Вельмі важным аргументам у падтрымку адгідранімічнай версіі выступае той бясспрэчны факт, што менавіта назва ракі Мень (прыток Віслы), якая захавалася да нашага часу, паслужыла асновай для назвы старажытнага польскага горада Мінск Мазавецкі.

Дзе ж знаходзіцца рака Мень ці Мена, з якой звязаў свой гістарычны лёс Мінск Літоўскі (так яго называлі ў адрозненне ад польскага Мінска Мазавецкага)? В. Жучкевіч (Жучкевич В.А. Краткий топонимический словарь Белоруссии) дапускаў, што першапачаткова горад размяшчаўся ў раёне сучаснай вёскі Гарадзішча Мінскага раёна, якая знаходзіцца на беразе невялікай рачулкі Менкі пры ўпадзенні ў яе ручая Дунай (зараз ужо перасохлага). У гэтым месцы беларускія археолагі знайшлі старажытнае гарадзішча плошчай каля аднаго гектара са штучнымі валамі і радыяльнай сеткай вуліц, якія добра захаваліся. На думку ж археолага Э. Загарульскага, не варта шукаць сляды ракі Мень (Мена) за межамі сучаснага Мінска. І ў доказ гэтага звяртае ўвагу на адзін са старажытных тапонімаў Мінска -- Верхмень (раён сучасных вуліц Грыбаедава, Заслаўскай і Саўгаснай), які вельмі празрыста нагадвае, што тут было вярхоўе ракі Мень.

Як бачым, па меры накаплення фактаў усё большую аргументаванасць набывае версія пра паходжанне назвы Менск ад гідроніма Мень (Мена). Рака пакуль што не знойдзена і не лакалізавана, але яе існаванне ў мінулым па сутнасці ўжо прадказана наяўнасцю аднакарэнных назваў. Адгідранімічная прырода назвы Менска выразна выступае ў кантэксце групы назваў гарадоў Беларусі на -ск з гідранімічнай асновай, якія складаюць спецыфічную асаблівасць беларускіх назваў населеных пунктаў. На тэрыторыі фарміравання беларусаў яны адзначаюцца з IX стагоддзя, але асаблівую папулярнасць набываюць у XI--XIV стагоддзях. На гэтую тэрыторыю прыпадае больш палавіны гарадоў на -ск, што ўпамінаюцца ў летапісах XI стагоддзя. Назва кожнага трэцяга горада беларускай этнамоўнай тэрыторыі з ліку тых, што трапілі ў "Спіс рускіх гарадоў" канца XIV стагоддзя, заканчваецца на -ск і суадносіцца з рачной назвай (Сядоў В.В. Старажытнаруская тапанімія на беларускай тэрыторыі.// Пытанні беларускай тапанімікі. Мн., 1970). Многія з тых старажытных тапонімаў дайшлі да нашага часу: Полацк -- на Палаце, Друцк -- на Друці, Пінск -- на Піне, Слуцк -- на Случы, Віцебск -- на Віцьбе, Чачэрск -- на Чачэры, Сноўск -- на Снові, Лоск -- на Лошы. За межамі Беларусі іх зусім мала. Некалькі такіх назваў адзначана ў паўночна-ўсходняй Польшчы, што мяжуе з Беларуссю і Літвой. На рускай тэрыторыі назвы гарадоў на -ск (Омск, Орск, Томск) больш познія (пераважна XVII--XIX стагоддзі). А такія тапонімы, як Архангельск, Новапакроўск, Петрапаўлаўск, паходзяць не ад назваў рэк, а ад назваў цэркваў і манастыроў.

Яшчэ ў канцы XV стагоддзя ("Привелей месту Менскому на право Майдеборское", 1499) назва адзначаецца толькі ў форме Меньск, Менск. У XVI стагоддзі з'яўляецца дублетнае напісанне -- Мінск. У польскай мове форма Мінск -- вынік гістарычных змен у фанетыцы (Мень -- Мінскі аналагічна ўтварэнню Камень -- Каміньскі). **Мінск** -- усечаная форма прыметніка **Мінскі**. Польскі Мінск Мазавецкі адзначаецца ў форме Мінск у XV стагоддзі, прыкладна на стагоддзе раней, чым Менск Літоўскі. Па меры ўзмацнення польскага элемента (канец XVI--XVII стагоддзі) усё больш дамінуе варыянт Мінск, а ў XVIII стагоддзі, калі беларуская мова выйшла з пісьмовага ўжывання, ён замацаваўся канчаткова. У такім выглядзе назва трапіла на польскія карты, а пасля далучаная да Расіі (1793) была перанесена на карты Расійскай імперыі.

У 1919 годзе "Маніфэст часовага работніча-сялянскага правіцельства Беларусі" абвяшчае аб вяртанні беларускай сталіцы ранейшай назвы -- Менск. Праз 20 год рашэннем Другой сесіі Вярхоўнага Савета БССР 25--29 ліпеня 1939 года Менск зноў замяняецца на Мінск.

Сёння дыскутуецца пытанне пра мэтазгоднасць вяртання гістарычнай назвы Менск. Адзінай думкі наконт гэтага няма ні ў вучоных, ні ў грамадскасці.

**Валянціна ЛЕМЦЮГОВА.**

(Працяг будзе).

## ФАНТАЗІІ ШАГАЛА АЖЫЛІ Ў ВІЦЕБСКУ

У Віцебску адбыўся шагалаўскі фестываль. У гарадской Ратушы прайшла выстаўка ўдзельнікаў міжнароднага пленэра -- мастакоў не толькі з Беларусі, але і Расіі, Польшчы, Германіі, Італіі, Францыі, Амерыкі. Аўтары лепшых работ адзначаны спецыяльнымі памятнымі прызамі. Частка палотнаў падорана гораду.

Акрамя гэтай, рэдкай па аўтарскаму складу экспазіцыі, віцябчане пабачылі незвычайнае відовішча. Рэпрадукцыі карцін Марка Шагала праецыраваліся проста на сцяну краязнаўчага музея. А ажыўлялі іх персанажы-мімы са скрыпкай ды розным мастацкім рыштункам, якія ўзляталі ў паветра, зусім як на карцінах майстра. Дзеля гэтага эфекту спецыяльна быў прыстасаваны спартыўны батут.

Па праграме фестывалю некалькі дзён працаваў "круглы стол", які сабраў гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, музейных работнікаў розных краін.

Заключныя акорды фестывалю прагучалі ў дзень нараджэння славутага віцебскага мастака. Спачатку адбылося свята на яго роднай вуліцы -- Пакроўскай. А ўвечары французскі кампазітар Марк Блёз разам з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам Беларусі ўпершыню прадставіў слухачу свой твор, прысвечаны Шагалу.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 991. Падпісана да друку 11. 7. 1994 г.